ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№1 (70) студзень 2017 год

CATHOLICNEWS.BY

# У Віцебску прайшоў конкурс нацыянальных батлеек

Пра тое, як выступілі дзеці на віцебскай сцэне, чытайце на старонцы 4



# Ян Сюй: как рисование привело меня в Церковь

Как талант помог китайской художнице прийти к вере, читайте на странице 2









# Талент пакліканняў: творчы шлях мастачак Барановіч

Пра мастачку з Астравеччыны, якая піша іконы і распісвае касцёлы, і яе дачку чытайце на старонцы 8



# Застаўся верным пакліканню

Матэрыял, прысвечаны 125-годдзю з Дня нараджэння выбітнага беларускага святара і грамадскага дзеяча ксяндза Адама Станкевіча чытайце на старонцы 6



# Нататкі місіянера. Перу

Ксёндз Ежы Майка ў свой час служыў ва Ушачах. Зараз ён знаходзіцца ў Амерыцы. Сваімі ўспамінамі з місіянерскай дзейнасці ў Перу ён дзеліцца з чытачамі на старонцы 5

# Фокусы для Папы. Фотафакт



Сярод пілігрымаў, якія прыбылі сустрэцца з Пантыфікам падчас агульнай аўдыенцыі 28 снежня 2016 года, былі і ўдзельнікі цыркавога фестывалю, які штогод у калядны перыяд адбываецца ў Рыме.

Адзін з артыстаў прадэманстраваў Папу Францішку свае здольнасці. Здаецца, Святому Айцу спадабалася!



# Біскуп Алег Буткевіч сустрэўся з бяздомнымі

**Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч 30 снежня спаткаўся з бяздомнымі жыхарамі Віцебска. Сустрэча адбылася з нагоды калядных і навагодніх святаў у цэнтры начнога знаходжання ў Віцебску.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

Іерарх павіншаваў прысутных са святам Божага Нараджэння і пажадаў благаслаўлёнага Новага году. Усе бяздомныя атрымалі харчовыя падарункі, падрыхтаваныя каталіцкай дабрачыннай арганізацыяй Віцебскай дыяцэзіі "Карытас".

На сустрэчы таксама прысутнічаў дырэктар "Карытас" кс. Андрэй Аніскевіч са сваімі супрацоўнікамі.

Варта адзначыць, што каталіцкая арганізацыя "Карытас" не толькі рыхтуе святочныя падарункі для бяздомных з нагоды рэлігійных святаў. Яна таксама фінансуе штодзённае харчаванне для людзей, якія зарэгістраваныя ў Віцебскім цэнтры начнога знаходжання.

# Ян Сюй: как рисование привело меня в Церковь




**Ян Сюй – художница из города Ухань, что в Китае. То, что она однажды нарисовала, изменило всю её жизнь.**

Озабоченная своим будущим после ухода с работы в 2003 году, она оказалась в неожиданном месте. *"В то время я всегда носила с собой этюдник и ручку и проводила целые дни, делая городские зарисовки,* – рассказала она CNA. – *Я хотела запечатлеть исторические здания города, и так я нашла в центре собор св. Иосифа".*

Художницу потрясла красота этого строения: *"Я осталась там, а затем вернулась, чтобы сделать эскизы для картины. На третий день ко мне подошел католический священник и заговорил со мной о вере. На протяжении долгих лет я совсем не задумывалась о религии, и мне захотелось больше узнать о вере... Я приходила на Мессу каждое воскресенье и молилась Господу, и Он показал мне путь, несмотря на то, что я не была католичкой".*

Ей потребовалось почти семь лет, чтобы прийти к Крещению. Она приняла его в соборе св. Иосифа во время Пасхальной Литургии в 2011 году.

Ян говорит, что *"всё больше людей в Китае ищут путь и истинную жизнь, исполненную смысла, милости и славы Божией. Слава Богу за это!"*

*"Китай находится далеко от Рима, но католики в Китае всегда молятся о том, чтобы Папа посетил нашу землю когда-нибудь в будущем",* – говорит она.

Однако быть католиком в Китае означает принадлежать к меньшинству. Из 10 миллионов жителей города Ухань католики составляют всего 30 000 человек. *"Китай является социалистической страной, так что большинство его жителей не имеют религиозных убеждений",* – говорит Ян.

Тем не менее, вера здесь очень живая. *"Я люблю свою Церковь, здесь так много молодых замечательных католиков,* – замечает художница. – *Мы вместе участвуем в Мессе, читаем Розарий. Католическая Церковь делает меня лучше".*

> **"Среди трудностей, с которыми сталкиваются верующие в Китае, Ян называет отсутствие государственных выходных на религиозные праздники"**

Среди трудностей, с которыми сталкиваются верующие в Китае, Ян называет отсутствие государственных выходных на религиозные праздники. *"Особенно в Сочельник и Рождество, в Страстную Пятницу, Навечерие Пасхи, Успение Девы Марии... Если вы хотите принять участие в торжествах, вы должны просить выходной на работе",* – говорит она.

Ян всегда посещает Мессу по воскресеньям, служит в качестве чтеца, а также состоит в приходском хоре. Она рассказывает, что верующие могут, конечно, совершать Мессу публично, но *"это допускается только в пределах здания церкви. Мы не можем демонстрировать свою веру за пределами храма".*

Отношения между Католической Церковью и правительством Китая довольно напряжённые, так как правительство создало параллельную Католическую Патриотическую Ассоциацию, которая назначает епископов без одобрения Ватикана. Некоторые представители католического духовенства, включая епископов, были заключены в тюрьму за их лояльность по отношению к Святому Престолу.

Отголоски этих проблем ощущаются и в городе Ухань. Ян говорит, что она часто сталкивается с предубеждениями со стороны других людей. *"Я хотела бы присутствовать на Мессе каждый день, но не могу, потому что время богослужений приходится на моё рабочее время",* – с грустью замечает художница.

В 2007 году она вернулась к учёбе и получила степень магистра в области истории искусства. Для Ян это *"ещё один способ переживания веры".*

За портрет Фомы Аквинского она получила награду Общества Фомы Аквинского в конкурсе "Veritas et Amor". Это итальянское культурное общество памяти выдающегося богослова, философа и святого Католической Церкви. Портрет выполнен в стиле старинных рукописей.

*"Фома Аквинский заставляет меня задуматься о смысле моей жизни и стараться открыть волю Бога в отношении моей судьбы. Часто планы Бога кажутся непостижимыми, но, на самом деле, достаточно молиться об этом",* – говорит Ян.

Художница находит большое утешение в искусстве: *"Когда я рисую что-то сакральное, это особый способ молитвы для меня".*

*По материалам Catholic News Agency*
*Перевод Рускатолик*


Аляксандр Івашчонак на святкаванні 600-годдзя Глыбокага ў 2014 годзе. *Фота Леаніда Юрыка*

## Глыбачанін Аляксандр Івашчонак атрымаў дыяканскае пасвячэнне ў Італіі ў ордэне тэатынцаў

**10 лістапада 2016 года ва ўрачыстасць святога Андрэя Авэліна, святара і законніка з ордэна айцоў-тэатынцаў*, у горадзе Неапаль (Італія) у базіліцы Сан-Паола-Маджорэ з рук Яго Эксцэленцыі Джэнаро Акампы, дапаможнага біскупа Неапаля, глыбоцкі клерык Аляксандр Івашчонак атрымаў дыяканскае пасвячэнне.**

■ Марына Сінкевіч

Ва ўрачыстай Літургіі прынялі ўдзел генеральны вікарый ордэна тэатынцаў, правінцыял італьянскай правінцыі, настаяцель кляштара і базілікі Сан-Паола-Маджорэ, прадстаўнікі курыі і клеру дыяцэзіі Неапаль, архімандрыт Аўгустын з Маскоўскага Патрыярхату, а таксама чальцы армянскай супольнасці, шмат гасцей і сяброў з Польшчы, Іспаніі, Мексікі, ЗША, Аргенціны, Калумбіі, Шры-Ланкі, Філіпін.

Сваім спевам святочную Эўхарыстыю ўпрыгожвалі хор базілікі Сан-Паола-Маджорэ, саліст хору душпастырства Трыдэнцкай Імшы і прадстаўнікі хору Маскоўскага Патрыярхату.

**Даведка:**

***Тэатынцы** (ад лац. *Ordo Clericorum Regularium vulgo Theatinorum* — Кангрэгацыя рэгулярных клерыкаў Боскага провіду), CR – мужчынскі святарскі ордэн Рыма-каталіцкага Касцёла.

Ордэн заснаваны ў 1524 годзе па ініцыятыве Джанп'етра Карафы (пазней Папы Паўла IV) і святога Каэтана Цьенэ. Абодва належалі да брацтва Боскай Любові (Compagnia del Divino Amore) пры царкве св. Дароты. Ужо праз некалькі тыдняў абшчына была прызнана Папам Клімнтам VII як ордэн, неафіцыйна іх звалі "тэатынцамі", паколькі першым яго кіраўніком быў біскуп Кьеці Карафа (лац. назва горада – Theate, адсюль і найменне ордэна) – пазней Папа Павел IV.

Асаблівасць тэатынцаў у тым, што іх ордэн не быў у поўным сэнсе манаскім. Чальцамі абшчыны станавіліся пасвечаныя святары, якія складалі ўрачыстыя манаскія шлюбы. Яны, аднак, не сыходзілі ад свету, а працягвалі выконваць абавязкі парафіяльных святароў, не будучы пробашчамі. Такім чынам, тэатынцы сталі першым ордэнам новага тыпу, так званых рэгулярных клерыкаў.

Росквіт ордэна прыйшоўся на XVII стагоддзе, у XIX стагоддзі дзейнасць ордэна пачала паступова затухаць.

У 2014 годзе да ордэна належаў 171 манах, з іх – 141 святар, якія служаць у Італіі, Іспаніі, ЗША, Мексіцы, Калумбіі, Бразіліі і Аргенціне.


**Аляксандр Івашчонак** *(злева)*. **Божае Нараджэнне, 2016 год.**
*Фота з яго старонкі ў Facebook*

# Каталікі і праваслаўныя служаць дзецям-інвалідам у Гомелі



**У гомельскай дзіцячай вёсцы для сірот-інвалідаў, апеку над якой трымае мясцовы "Карытас", прайшоў калядны ранішнік.**

■ Павел Міцкевіч, *Ватыканскае радыё*

Цікава, што на свяце прысутнічалі і каталіцкі, і праваслаўны святары, а малітву чытаў менавіта праваслаўны душпастыр.

Дзіцячая вёска складаецца з некалькіх катэджаў, дзе жывуць групы-сем'і, і кожны домік мае свайго апекуна. Традыцыйна падчас перыяду Божага Нараджэння тут шырока адзначаецца свята заступніка аднаго з домікаў – святога Мікалая. Нядаўна ўспамін гэтага любімага многімі святога адзначалі ў Каталіцкім Касцёле і Праваслаўнай Царкве. І вось цяпер на малітву да святога Мікалая сабраліся выхаванцы і персанал дзіцячай вёскі.

Свята прайшло таксама пры ўдзеле афіцыйных гасцей – прадстаўнікоў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны насельніцтва, абласнога Камітэта па працы і сацабароне. Дзеці падрыхтавалі прыгожае прадстаўленне па матывах казкі "12 месяцаў". А ўзнагародай за іх намаганні сталі падарункі і салодкі стол.

Як паведаміў Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё дырэктар дабрачыннай каталіцкай місіі "Карытас-Міласэрнасць" кс. Юры Варанко, сумеснае з Праваслаўнай Царквой служэнне адбываецца ў гомельскай дзіцячай вёсцы з 2012 года. "Наш дом-інтэрнат адкрыты для ўсіх дзяцей, і мы не выбіраем выхаванцаў па рэлігійнай прыкмеце ці па веравызнанні. І так склалася, што абсалютная большасць і дзяцей, і супрацоўнікаў – гэта праваслаўныя. Таму, вядома, без душпастырскай апекі немагчыма было пакінуць гэтых людзей. Яны хацелі б бачыць праваслаўнага святара на розных урачыстасцях, на малітве. І святар прыходзіць сюды з мэтай падтрымаць духоўна супрацоўнікаў, дзяцей", – патлумачыў кс. Юры.

Унікальная для Беларусі дзіцячая вёска была ўрачыста адкрыта ў кастрычніку 2011 г. Інтэрнат пабудаваны з дапамогай Каталіцкай дабрачыннай місіі "Карытас-Міласэрнасць" на грошы замежных дабрачынных арганізацый і вернікаў-католікаў з Германіі, Аўстрыі, Італіі і іншых еўрапейскіх дзяржаў.

Вёска разлічана на пражыванне 60 хлопчыкаў і дзяўчынак ва ўмовах, максімальна набліжаных да сямейных. У такім асяроддзі, а таксама дзякуючы пастаянным дыдактычным і рэабілітацыйным заняткам магчыма максімальна поўнае развіццё асобы. Чатыры асобныя групы-сем'і ўключаюць у сябе па 15 чалавек. Апякуецца кожнай сястра-законніца ордэна бэнэдыктынак-самарыцянак Крыжа Хрыстовага. Яна разам з дапаможным персаналам клапоціцца пра належны клімат выхавання, працуе з дзецьмі.

Дзейнасць вёскі арганізавана пры падтрымцы абласнога Камітэта па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва. Дапамагае ў рэалізацыі праекта мясцовае аддзяленне "Карытас".

# Віцебскія святары наведалі дзяцей у лякарнях

**З нагоды святаў Божага Нараджэння і Новага году святары катэдральнай парафіі ў Віцебску наведалі абласную клінічную бальніцу і дзіцячую абласную клінічную лякарню, дзе сустрэліся з маленькімі пацыентамі.**

■ кс. Віктар Місевіч, *тэкст і фота*

Кс. Андрэй Аніскевіч і кс. Генадзь Рэйшэль прывезлі з сабой падарункі і павіншавалі дзяцей з каляднымі і навагоднімі святамі.

Для дзяцей, якія не змаглі праз хваробу быць дома на святы, гэта была ўнікальная магчымасць перажыць святочны настрой і атрымаць падарункі. Некаторыя дзеткі заспявалі песні і прачыталі вершы. Пакоі лякарняў на хвілінку ператварыліся ў імправізаваныя сцэны.

Кс. Андрэй Аніскевіч, пробашч віцебскай катэдры, зазначыў: "Для мяне гэта асаблівая радасць, калі я магу хоць крыху крыху палегчыць стан гэтых хворых дзетак. Дай, Бог, ім усім хутчэйшага выздараўлення і вяртання дадому".

Падарункі для дзяцей з віцебскіх лякарняў былі падрыхтаваныя дабрачыннай каталіцкай арганізацыяй "Карытас".



# У Віцебску прайшоў конкурс нацыянальных батлеек



На сцэне дзеці з Лынтупаў. Каб выступіць, яны праехалі трыста кіламетраў!

**Мерапрыемства прайшло 5 студзеня ў межах XV фестывалю "Дні хрысціянскай культуры", што ладзіўся ў Віцебску з 3-га па 6-га студзеня.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Конкурс праводзіўся ў Палацы творчасці дзяцей і моладзі Чыгуначнага раёна. У ім прынялі ўдзел 13 калектываў з 12 парафій Віцебскай дыяцэзіі. Гэта былі дзеці з непасрэдна Віцебска, а таксама з Друі, Параф'янава, Полацка, Наваполацка, Ідолты, Лынтупаў, Дуброўна, Паставаў.

Напачатку ўсіх удзельнікаў прывітаў ксёндз Віктар Місевіч – галоўны арганізатар мерапрыемства. Потым да прысутных звярнуўся біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Разам з біскупам усе прачыталі малітву "Ойча наш", і конкурс распачаўся.

Першымі выступілі дзеці з парафіі святога Антонія ў Віцебску. Яны паказалі сцэнку, як людзі ехалі на свята, а аўтобус завяз у сумёце. І вернікі вымушаныя былі накрыць вігілійны стол проста ў полі. І калі перад гэтым яны сварыліся, то потым абставіны іх усіх памірылі.

Іншыя выступы таксама былі звязаныя з Божым Нараджэннем. Прычым шмат хто з выступоўцаў імкнуўся звязаць біблейскія падзеі з сучасным жыццём, паказаць, што Бог павінен займаць належнае месца і ў жыцці кожнай сучаснай сям'і.

Каб патрапіць на конкурс, некаторым калектывам давялося прайсці праз сапраўдныя выпрабаванні. Так, дзеці з дзіцячага дома ў Друі павінны былі ўстаць а 5.30, каб не спазніцца ў Віцебск. Дарэчы, ім выпала выступаць другімі.

Дзеці з самай далёкай парафіі – у Лынтупах – выехалі на дзень раней, пераначавалі ў парафіі ў Шуміліне, каб прыехаць на конкурс без стомленасці дарогай. Ды і выступалі яны адразу пасля дзяцей з Друі. Паказалі сцэнку пра свята Божага Нараджэння ў сучасным свеце, калі розныя рэкламы стараюцца адцягнуць увагу людзей ад сапраўднага значэння свята.

Але самыя вялікія выпрабаванні выпалі дзецям з пастаўскай парафіі Езуса Міласэрнага. Па дарозе ў іх аўтобусе замерзла паліва, давялося выклікаць іншы аўтобус. Праўда, на дапамогу прыйшоў ксёндз Дзмітрый з Празарокаў, які адагрэў дзяцей гарачай гарбатай і проста хрысціянскай увагай. Забягаючы наперад, скажам, што гэтыя прыгоды не перашкодзілі пастаўчанам заняць другое месца ў конкурсе.

З адметнасцяў сёлетняй імпрэзы можна назваць маленькую парафію з Дуброўна, прадстаўленую двума калектывамі – лялечным тэатрам і дзіцячай школай мастацтваў.

Журы конкурсу было прафесійным. У яго склад уваходзілі Таццяна Дарафеева – арганістка парафіі Святога Духа ў Віцебску, Алесь Замкоўскі – кіраўнік літаратурна-драматычнай часткі тэатра імя Якуба Коласа, Алег Рыхтэр – акцёр, майстар сцэны беларускага тэатра "Лялька".

– На самой справе гэта было свята. Кожны імкнуўся распавесці сваю гісторыю. З усёй нашай вобласці дзеці прывезлі сваю гісторыю паказаць. Яны былі сучаснымі, таму складана нам выбіраць, журы заўсёды найбольш складана. Але адбылося свята, і гэта цудоўна, – сказаў сябра журы Алег Рыхтэр.

Апошнімі выступалі дзеці з катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску. Іх выступ быў самым працяглым па часе – амаль паўгадзіны – і распавядаў пра тое, як розныя народы шукаюць Езуса і знаходзяць Яго. Трэба адзначыць, што ў дзяцей былі сапраўдныя касцюмы з Кітая і Афрыкі.

Пасля выступлення дзяцей запрасілі на абед у кавярню пры катэдры. Як адзначыў пробашч катэдры ксёндз Андрэй Аніскевіч, такой колькасці людзей гэтая кавярня хіба яшчэ не бачыла.

Напрыканцы ў самой катэдры адбылося абвяшчэнне пераможцаў і ўручэнне дыпломаў і падарункаў. Гэтаму папярэднічала сумесная малітва дзяцей на ружанцы.

Журы прысудзіла тры трэція месцы, якія дасталіся дзецям з парафіі святога Антонія ў Віцебску, з Наваполацка і Параф'янава. Два другія месцы занялі прадстаўнікі Паставаў і Полацка, а першае заслужылі гаспадары – дзеці з парафіі Езуса Міласэрнага. Трэба сказаць, што і астатнія ўдзельнікі не засталіся па-за ўвагай: ім таксама ўручылі дыпломы і падарункі.

Цукеркі атрымалі і тыя дзеці, што прысутнічалі ў якасці гледачоў. Як пажартаваў біскуп Алег Буткевіч, гэта быў аванс за тое, каб у наступным годзе і яны прынялі ўдзел у конкурсе.

Арганізатар мерапрыемства ксёндз Віктар Місевіч адзначыў, што такія імпрэзы спрыяюць яднанню людзей:

– Правядзенне такіх фестываляў дае вельмі шмат, таму што аб'ядноўвае людзей. Аб'ядноўвае перадусім нас, католікаў, якія жывуць у розных мясцінах Віцебскай дыяцэзіі, ад'ядноўвае дзяцей і моладзь, якія могуць бліжэй пазнаёміцца, пасябраваць паміж сабой падчас конкурсу. Гэта таксама аб'ядноўвае грамадства, бо не толькі католікі былі сёння на мерапрыемстве, былі таксама і праваслаўныя.

Ксёндз Віктар выказаў вялікую падзяку віцебскаму дыяцэзіяльнаму Caritas'у і яго кіраўніку ксяндзу Андрэю Аніскевічу за фінансавую падтрымку гэтага праекта. Ён выказаў надзею, што ў будучым годзе гэты конкурс збярэ яшчэ больш удзельнікаў.



З калляднымі зоркамі – прадстаўнікі Дзіцячага Дома ў Друі



Выступаюць дзеці з парафіі святога Уладзіслава ў Віцебску

# Нататкі місіянера. Перу

*Працяг. Пачатак у №12 (69)*

**Пасля заканчэння курсаў місіянераў кс. Ежы Майку накіравалі несці слова Божае ў Перу. З успамінаў ксяндза Ежы: “13 кастрычніка 2010 г. мы вылецелі з Варшавы ў Галандыю. У Амстэрдаме адбылася перасадка на самалёт “Боінг - 777”, разлічаны на 400 пасажыраў. Палёт доўжыўся 10 гадзін.**



Нарэшце ўбачылі Карыбскія выспы, потым – узбярэжжа Венесуэлы. У маіх думках мільганула: “Вось і Паўднёвая Амерыка!” Самалёт ляціць над гарамі, раўнінамі, джунглямі, пра якія можна здагадацца па шэрым колеры, што бачны з ілюмінатара. Час ад часу можна ўбачыць крутыя выгіны рэк. Калумбія… І, нарэшце, Перу.

У аэрапорце Перу я зразумеў, што не ведаю ніводнага адраса і тэлефона, акрамя нумара нашай настаўніцы Ліліян, якая выкладала на курсах у Іспаніі. Але нечакана пачуў голас: “Няхай жыве Польшча!” Гэта быў ксёндз Ян з Седлецкай дыяцэзіі, які працаваў у Перу ў вікарыяце Сан-Рамон. Ксёндз Ян быў не адзін, а з кіроўцам Самуэлем. Мы накіраваліся да айцоў-францішканаў, дзе спыніліся на начлег. Так скончыўся самы доўгі дзень у маім жыцці”.

Ксёндз успамінае сваё знаёмства з Перу: “Наша праваднічка паказвае нам сталіцу – Ліму. Мы звярнулі ўвагу на хаатычны рух на вуліцах. Гэта настолькі нас здзівіла, што нават пералёт праз Атлантыку здаваўся дробяззю. Я пастаянна думаў, што абы мы на каго-небудзь наедзем, або хтосьці на нас. Аднак нам сказалі, што цяжкіх здарэнняў на вуліцах Перу значна менш, чым у Еўропе. Машыны ў асноўным старыя, пабітыя, якія, хутчэй, прыдатныя для музея, чым для язды.

У цэнтры горада знаходзіцца вялікая плошча “маёр”. З аднаго боку гэтай плошчы стаіць катэдра, з другога – палац Прэзідэнта, з трэцяга – магістрат. Гэта ўсё нічым не здзівіла. Катэдра была непрапарцыянальнай, а будаўнічыя стылі змешаныя. Наведалі касцёл Святых Пятра і Паўла, айцоў-дамініканаў. Было бачна, што людзі прыбіраюць у святынях, робяць дэкарацыі. Удалося заўважыць, што большая частка перуанцаў прыходзіць у касцёл, каб памаліцца, а іспанцы – каб паглядзець.

У касцёлах гучаць музыка і спевы падчас Імшы, усе спяваюцца. Я адчуваў сябе, як у Польшчы. Убачыў і тое, чаго на маёй радзіме няма: людзі, калі ідуць каля касцёла, хрысцяцца. Перуанскія святары сказалі, што гэта проста пусты знак. Па іх словах, становішча Касцёла ў Перу і іншых краінах Паўднёвая Амерыкі не такое добрае, як падаецца напачатку. Раней меркавалі, што якраз тут надзея Касцёла, а зараз гэта неактуальна: змяншаецца колькасць святарскіх пакліканняў.

Я заўважыў, што Ліма – гэта горад сацыяльных кантрастаў: першы – бедны, шэры горад, дзе ўсё прысыпана пылам, а зеляніны на вуліцах амаль няма. Горы, якія атачаюць Ліму, таксама запыленыя. Пыл засланяе нават сонца. Другая Ліма – гэта прыватны сектар горада, які называецца Мірафлорэс. Гэтая частка падобная да Мадрыда: шмат высокіх дамоў, рэкламныя шчыты. Дзякуючы рознакаляроваму асвятленню вуліцы выглядаюць так багата, што ні адна еўрапейская сталіца не змагла б параўнацца з Лімай.

Мне давялося пабываць у Этнаграфічным музеі і Музеі інквізіцыі. Уразіла тое, што за 300 гадоў існавання інквізіцыі было прысуджана да смяротнага пакарання толькі 40 чалавек, значыць, у сярэднім адзін смяротны вырак на 10 гадоў.

> **Як у Беларусі: яшчэ нічога святар не зрабіў, а яго ўжо на руках носяць і ўсхваляюць**

Вечарам мы паехалі аглядаць водны цырк, які знаходзіўся ў цэнтральным парку горада. Прадстаўленне было вельмі цікавым: лазарнае асвятленне фантанаў і музыка стварылі святочны настрой. Я звярнуў увагу, што перуанцы вельмі імпульсіўныя. На вуліцах шумна, машыны сігналяць без перапынку, так і сыплюцца прапановы зайсці ў краму, у рэстаран або ў аўтобус, нават калі чалавеку патрэбна ўвогуле ехаць не ў той бок. Перуанцы непунктуальныя: калі гавораць, што павінны паехаць а 6-й гадзіне, то гэта зусім не абавязкова, а можа быць і а 7-й, і а 8-й. Ад усяго гэтага баліць галава і здаюць нервы.

Біскуп прыслаў нам прывітанне па электроннай пошце, у якім накіроўваў нас у Сан-Рамон, бо ў нядзелю мясцовы пробашч павінен пазнаёміць з парафіянамі. Калі ехалі з Лімы, то звярнулі ўвагу на транзітную трасу праз Анды, якую некалі збудаваў польскі інжынер Маліноўскі. Гэта дарога высакагорная, але вышыня ў аўтамабілі так не адчуваецца, а калі выходзіш з яго, то кружыцца галава і нешта робіцца з ціскам. Гэта ўсё звязана з недахопам кіслароду ў паветры.

Горы паступова знікаюць, і адкрываюцца маляўнічыя краявіды. Розныя дрэвы і кветкі, якіх я ніколі не бачыў у Еўропе. Вёскі ў гарах вельмі бедныя, дамы зроблены з гліны і стаяць яны да першых ліўняў. У Ліме было даволі халадна, у гарах – мароз, а тут вільготна і спякотна.

Нас сустракае натоўп людзей, аркестр грае прывітальны марш. Мы з ксяндзом Гжэгажам мусім не толькі падаць кожнаму руку, але і пацалавацца з кожным. Стараста ўручыў нам прывітальныя дыпломы. Мы былі здзіўленыя, бо нічога яшчэ не зрабілі, а столькі ўжо ўсяго адбылося. Гэта як у Беларусі: яшчэ нічога святар не зрабіў, а яго ўжо на руках носяць і ўсхваляюць.

У нядзелю адбылася першая Імша, дзе нас прадставілі парафіянам. Звярнуў увагу, што каля алтара было шмат міністрантаў, большасць з якіх – дзяўчынкі. Яны былі апранутыя не толькі ў комжы, але таксама ў чорныя і чырвоныя сутаны. Людзі спявалі, адказвалі падчас Імшы, але кожны як бы сам сабе. Камунію бяруць да вуснаў, а не як у Іспаніі – у руку. Касцёл маленькі, але чыста прыбраны. Законныя сёстры патлумачылі, што ў гарах людзі больш замкнутыя, а ў джунглях – больш адкрытыя.

У пасёлку жыве шмат нашчадкаў нямецкіх перасяленцаў, якія прыехалі сюды ў канцы XIX ст. Ёсць нават такія прозвішчы, як Мюлер, Шродар і падобныя. Бачна гэта і па знешнасці, і менталітэт іншы, чым у еўрапейцаў. Вёскі нямецкіх нашчадкаў выглядаюць інакш, чым перуанскія: багатыя дамы пабудаваныя з сапраўднай цэглы і атынкаваныя.

Вікарыят Сан-Рамон акружаюць высокія горы, працаваць тут цяжка: мала кіслароду, нізкая вільготнасць паветра, тэмпература ўвесь год – +15-25 градусаў. Краявіды маляўнічыя, землятрусаў амаль няма.

Індзейскія пасяленні тут адсутнічаюць. Усе размаўляюць на іспанскай мове. Наша праца заключаецца ў адпраўленні штодзённай Імшы ў Хуанкабамба і ў даяджанні ў вёскі, якіх каля трыццаці. Адлегласць да іх розная. Хоць горы тут і невысокія, але ў перыяд дажджоў некаторыя дарогі становяцца непраходнымі.

У парафіі працуюць дзве законныя сястры-перуанкі, якія праводзяць катэхезу ў школе і дапамагаюць нам гатаваць ежу.

*Працяг будзе*

*Падрыхтавала*
***Наталля Мізярска,***
*Ушачы*



**Ксёндз Ежы Майка**



# Застаўся верным пакліканню

## Да 125-годдзя кс. Адама Станкевіча

**6 студзеня спаўняецца 125 гадоў з дня нараджэння кс. Адама Станкевіча – слыннага каталіцкага святара, лідэра “Беларускай хрысціянскай дэмакратыі”, аднаго з заснавальнікаў “Таварыства беларускай школы”, энтузіяста ўвядзення і выкарыстання беларускай мовы ў Касцёле. Жыццё гэтага грамадска-палітычнага дзеяча, выдаўца, гісторыка, публіцыста і літаратуразнаўцы скончылася трагічна: яго закатавалі ў ГУЛАГу.**

■ **Павел Міцкевіч**, *Ватыканскае радыё*



**А. Станкевіч сярод паслоў і сенатараў Беларускага пасольскага клуба. 1922 г.**



Пра ролю вядомага святара ў тагачасным грамадстве і Касцёле Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё распавёў загадчык кафедры ўсеагульнай гісторыі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Скарыны, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Станіслаў Чаропка.

*“Адам Станкевіч з'яўляецца адной з сапраўды велізарнейшых постацей у беларускай гісторыі – як грамадскай, так і касцёльнай. Як святар ён адыграў вялікую ролю ў стварэнні “беларускага” Касцёла. Бо Касцёл з'яўляецца адначасова і паўсюдным, і нацыянальным. І Адам Станкевіч зрабіў велізарны шлях, каб паўсюдны Касцёл стаў сваім і для беларусаў. На гэтым шляху ён сутыкнуўся з агромістымі праблемамі, з ганеннямі, але ён здолеў годна выстаяць і данесці да беларусаў слова Хрыста на беларускай мове”,* – адзначыў навуковец.

Апрача гэтага ксёндз Адам з'яўляўся і адным са стваральнікаў беларускай нацыі, упэўнены гісторык. Ён лічыць, што імя Адама Станкевіча можна паставіць у адзін шэраг з імёнамі Багушэвіча, Дуніна-Марцынкевіча, Купалы, Коласа.

*“Постаць Адама Станкевіча не менш важная, бо ўсю сваю энергію ён прыклаў на тое, каб беларускі народ адчуў сябе нацыяй. Гэта чалавек, якому ў яго рэлігійнай і грамадскай дзейнасці давялося сутыкнуцца з вялікім супрацьдзеяннем з боку як польскіх, так і рэвалюцыйных савецкіх уладаў. І знаходзячыся паміж гэтымі двума агнямі ён здолеў застацца вялікім чалавекам. І яго смерць у савецкіх лагерах паказвае, што ён да канца застаўся верным сваім прынцыпам і свайму святарскаму пакліканню”,* – дадаў гісторык.

Адам Станкевіч нарадзіўся ў 1892 годзе ў Ашмянскім павеце – цяпер гэта Смаргонскі раён. Юнак скончыў Духоўную семінарыю ў Вільні, рыма-каталіцкую духоўную акадэмію ў Петраградзе і атрымаў святарскае пасвячэнне ў 1914 годзе.

Ужо падчас вучобы ў Петраградзе ён стаў старшынёй беларускага гуртка і адным з заснавальнікаў і лідэраў “Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці”, якая пазней атрымала назву “Беларуская хрысціянская дэмакратыя”.

У 1917 годзе адным з першых перайшоў да казанняў на беларускай мове пры правядзенні набажэнстваў, за што падвяргаўся ганенням з боку польскіх касцёльных уладаў.

З 1919 года выкладаў рэлігію ў Віленскай беларускай гімназіі, быў рэдактарам газеты “Крыніца”. Пазней кс. Адам стаў адным з кіраўнікоў Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні, узначальваў Таварыства беларускай школы, выдаваў часопіс “Хрысціянская думка”.

У 1944 годзе ксёндз Адам быў упершыню арыштаваны савецкімі рэпрэсіўнымі органамі і неўзабаве адпушчаны, а ў 1949 годзе арыштаваны другі раз, абвінавачаны ў антысавецкай дзейнасці і асуджаны на 25 гадоў пазбаўлення волі.

Зняволенне адбываў у віленскай турме Лукішкі, потым у Азярлагу ў Іркуцкай вобласці Расіі, дзе памёр у канцы 1949 годзе.

У гэтым годзе аргкамітэт па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя” пачаў збор подпісаў за перайменаванне праспекта Дзяржынскага ў Мінску ў праспект Адама Станкевіча.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета “Каталіцкі Веснік”***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Наведвайце храмы

Званы пад плошчай заклікалі людзей прыйсці на багаслужэнне. І хаця да самой Імшы было яшчэ паўгадзіны, уся плошча і прылягаючыя вуліцы былі застаўленыя аўтамабілямі. І не дзіва – быў Вялікдзень!

Гэта быў якраз адзін з гадоў, калі велікодныя святы супадаюць у католікаў і праваслаўных. Касцёл і царква, якія стаялі непадалёк адзін ад аднаго на адной плошчы, сваімі званамі стваралі святочны настрой і клікалі вернікаў у храмы.

З аўтамабіляў, што працягвалі пад'язджаць, выходзілі людзі і накіроўваліся ў бок храмаў. Праўда, пераважалі тут збольшага жанчыны сярэдняга і старэйшага веку, мужчыны ж працягвалі сядзець у сваіх аўто. Хтосьці з іх слухаў музыку, хтосьці проста курыў, нехта чытаў газету або кніжку. Некаторыя збіраліся ў кампаніі па некалькі чалавек.

– О, здарова, Коля! – прывітаў адзін мужчына другога, – Што прывёз сваю ў касцёл?

– Ага, Вася, прывёз, хай ідзе моліцца, грахі замальвае, – адказаў той.

– І я сваю Валю ў царкву прывёз. Хай моліцца, яны ж бабы грашаць больш. Во кожны дзень мяне пілiць, то тое ёй не так, то іншае.

– Ды й не кажы, хадзем да мяне, пакурым. Я тачку нядаўна памяняў, пакажу.

І мужчыны накіраваліся аглядаць пакупку.

Я таксама сустрэў знаёмага, які ішоў у касцёл. Да пачатку Імшы было яшчэ хвілін дваццаць, таму мы стаялі і назіралі за святочнай мітуснёй.

– Бачыш, з мужчын мала хто ў храм ідзе, больш па машынах сядзяць, маці, жонак прывезлі, а самі ў касцёл ці царкву, дык не!

– Відаць, лічуць ніжэй за свой мужчынскі гонар у храм ісці, - адказаў я.

– І ў мяне адзін сваяк так заўсёды паступаў, прывязе жонку да касцёла, а сам сядзіць у машыне, кніжку чытае або проста музыку слухае. Маўляў, ты, жонка, грашыш больш, ідзі маліся, а я тут пачакаю. І скончылася аднойчы для яго гэта звычка сядзець у машыне трагічна. Загінуў дзядзя Міша. Праўда, не пад касцёлам, чакаючы жонку, але вось так, у сваім аўто.

– О, яшчэ маем час, распавядзі! – папрасіў я знаёмага.

І вось што ён мне распавёў.

***

Аўтамабіль дзядзя Міша купіў яшчэ за савецкім часам, зарабляў ён тады нядрэнна. Былі гэта яшчэ савецкія "Жыгулі", але на той час было гэта крута. Тады ж не так проста было машыну купіць, мала яшчэ мець патрэбную суму. Трэба ж яшчэ колькі гадоў у чарзе пастаяць! Або блат мець сярод патрэбных людзей. Вось у дзядзькі і быў нейкі там знаёмы, дапамог…

А машын тады ў людзей не так і шмат было, не тое, што зараз. Таму і любіў і бярог дзядзя Міша свайго "Жыгулёнка" хіба больш нават за жонку. А жонку вазіў у касцёл амаль кожную нядзелю. Там недалёка было, можна было і пяшком зайсці. Але ж дзе там?! Трэба ж было на людзі паказацца.

Прывёзшы сваю Марыю, Міша даставаў нейкую кніжку і чытаў. А калі сустракаў якога знаёмага, які таксама прывозіў каго ў храм, то яны звычайна абмяркоўвалі сваіх жалезных коней, хадзілі ад адной машыны да другой, заглядвалі пад капот машыны, дзяліліся адзін з адным, дзе лепш дастаць тую ці іншую запчастку… А, бывала, і проста слухалі ў салоне музыку.

Гарэлкай дзядзя Міша не злоўжываў. Мог, вядома, тады-сяды і выпіць чарку-другую, на свята там ці з палучкі. А так асабліва не…

І вось аднаго разу выпіў ён з зарплаты з сябрам, прыйшоў дадому, а там жонка і пачала яго за гэта, як кажуць, пілiць. Ну, а чалавек выпіўшы быў, пасварыўся з жонкай і пайшоў у гараж. А жыў ён у шматкватэрным доме, таму гараж быў не зусім побач. Была ў дзядзькі ў гаражы амаль заўсёды свая заначка, трымаў там бутэльку-другую на ўсялякі выпадак.

Вось і на гэты раз ён успомніў, што ёсць у яго ў гаражы бутэлька гарэлкі, ну і рашыў там пасядзець, пакуль гнеў у жонкі пройдзе. А была хіба восень, бо на дварэ ўжо было няцёпла. Таму дзядзька сеў у машыну, завёў яе, уключыў печку, музыку сабе паставіў, ну і, вядома чарку выпіў. І не заўважыў як заснуў.

Дзверы ў гаражы былі адчыненыя, але ў нейкі момант парывам ветру іх зачыніла. Так і заснуў дзядзя Міша назаўсёды…

Цётка Марыя праз гадзіны дзве-тры адправіла зяця, які прыйшоў якраз у госці, схадзіць у гараж, пазваць таго дадому. А там ужо і "хуткая", і міліцыя…

Аказваецца, прыйшоў сусед у свой гараж, бачыць, святло гарыць, машына, чувань, заведзеная. Адчыніў дзверы, а там дыму ўжо поўна…

***

Вось так і пахавалі дзядзю Мішу, – уздыхнуў мой знаёмы, – можа хто і скажа, маўляў, трагічны выпадак, вецер вінаваты, ці жонка, што сварылыся… Але я лічу, што гэта нейкі знак зверху. Усім нам. Вось любіў чалавек сваю машыну больш за ўсё, нават у храм не хадзіў, дык і памёр у ёй… Добра, пойдзем, пара ўжо.

І мы пайшлі ў касцёл.

***Зміцер Лупач***, *паводле рэальных падзей*



# Некаторыя асаблівасці пастаноўкі націску ў беларускай мове

**У працэсе штодзённай камунікацыі мы нярэдка сутыкаемся з выпадкамі, калі ў адным і тым жа слове моўнікі па-рознаму ставяць націск, гэта значыць, на розныя склады. Між тым правільная пастаноўка націску з'яўляецца адной з найбольш выразных прымет высокай культуры маўлення.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

У беларускай мове націск *свабодны*, г.зн. не замацаваны за нейкім пэўным складам. Разам з тым ёсць невялікая група слоў, якія маюць варыянтны націск. У такіх лексічных адзінках націск можа быць на розных складах, і пры гэтым не парушаюцца літаратурныя нормы. Напрыклад, *веснав**ы** і вясн**о**вы, л**ё**таць* і *лят**а**ць, л**і**тасцівы* і *літасц**і**вы, навак**о**л і нав**а**кол, н**а**нава і нан**о**ва, снядaнне і сн**е**данне.* Але для большасці словаў і словаформаў нормаю лічыцца толькі адзін націскны склад.

Часам націск у рэальным маўленні не супадае з афіцыйна замацаваным у нарматыўных даведніках. Так, паводле сучасных нормаў трэба вымаўляць *сп**і**на, індустрыя, металургія,* але ў маўленчай практыцы часцей выкарыстоўваюцца акцэнтныя формы *спін**а**, індустр**ы**я, металург**і**я.* Тут маем справу з афіцыйнай замацаванасцю нормаў з аднаго боку і традыцыйнасцю, агульнапрынятасцю, пашыранасцю ў штодзённай практыцы з іншага. Таму другі варыянт не варта ўспрымаць як памылковы.

У асобных выпадках месца націску ў працэсе развіцця мовы можа змяняцца. Яшчэ з паўстагоддзя таму асноўнаю прычынаю парушэння акцэнталагічных нормаў лічылі ўплыў народных гаворак. Напрыклад, на Віцебшчыне шырока распаўсюджаная форма *крап**і**ва*, якая ўплывала і на націск у літаратурнай мове, але цяпер нормай з'яўляецца націск на апошнім складзе – *крапів**а***. У наш час парушэнні вынікаюць, у першую чаргу, з прычыны фармальнага беларуска-рускага двухмоўя. Найчасцей няправільна ставіцца націск у тых выпадках, калі да беларускага моўнага матэрыялу стасуюцца рускамоўныя падыходы: *адз**і**наццаць, чат**ы**рнаццаць, шэсцьдзяс**я**т* замест правільных формаў: *адзінaццаць, чатырнaццаць, шэсцьдзесят*, або ў назвах беларускіх гарадоў, дзе павінна быць па-беларуску *Мазыр*, (а не *Мозыр*), *Нясвіж* (а не *Несвіж*), *Талачын* (а не *Тал**о**чын*), *Капыль* (а не *К**о**пыль*).

У мове існуе і яшчэ даволі вялікая група слоў, у якіх націск зусім неабгрунтавана пераносіцца на іншы склад. Гэта тлумачыцца як слабым засваеннем акцэнталагічных нормаў, так і недастатковым валоданнем мовай увогуле. Так, беспадстаўна ўжываюцца словы *вып**а**дак* (трэба: *в**ы**падак), Укр**а**іна* (трэба: *Укра**і**на*), *сакав**і**к* (трэба: *сак**а**вік*), *гл**і**няны* (трэба: *гліняны*), *знах**а**р* (трэба: *зн**а**хар*) і інш.

Тыповыя памылкі можна вылучыць і сярод прыметнікаў. Так, напрыклад, павінна быць *малы* (а не *м**а**лы*), *стары* (а не *ст**а**ры*), *аднаразовы* (а не *аднараз**а**вы*), *біржавы* (а не *б**і**ржавы*), *аптовы* (а не *опт**а**вы*), *заводскі* (а не *заводск**і***), *ільняны* (а не *ільн**я**ны*), *слабы* (а не *сл**а**бы*), *каменны* (а не *к**а**менны*), *пахмурны* (а не *п**а**хмурны*) і інш.

Таксама назіраюцца характэрныя памылкі пры ўжыванні дзеясловаў. Напрыклад, у дзеясловах множнага ліку прошлага часу правільнымі будуць формы *ўзялі, далі, аддалі, прынялі*, а не *ўз**я**лі, д**а**лі, адд**а**лі, прын**я**лі.* У дзеясловах 2-й асобы множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу абвеснага ладу нарматыўнымі з'яўляюцца толькі варыянты *жывяце* або *жывяцё* (не *жывеце*), *гледзіце* або *гледзіцё* (не *глядзіце*), *ідзяце* або *ідзяцё* (не *ідзеце*), *берaце* або *берацё* (не *бярэце*), *п'яце* або *п'яцё* (не *п'еце*), *несяце* або *несяцё* (не *нясеце*) і г.д.

Такім чынам, у працэсе моўных зносін варта самую пільную ўвагу звяртаць на правільнасць пастаноўкі націску. Гэта якраз тое, што з'яўляецца неад'емнай рысай кожнага адукаванага чалавека.

# Талент пакліканняў: творчы шлях мастачак Варановіч

**Зямля Астравеччыны шчодрая на таленты. Такім яскравым прыкладам з'яўляюцца беларускія мастачкі Тэрэса Іосіфаўна Варановіч і яе дачка Вікторыя, якія жывуць у вёсцы Дайлідкі. Сёння да іх у госці завітаў "Каталіцкі Веснік".**

**Ірына Радзевіч**

Сям'я Варановіч жыве недалёка ад касцёла Апекі Маці Божай. Як толькі заходзіш у дом, адразу бачна, што тут ёсць мастакі: распісаныя дзверы, сцены, у інтэр'еры прысутнічае шмат уласных карцін.

У адным з пакояў вісіць вялікі прыгожы абраз Марыі, які напісала Тэрэса Іосіфаўна.

## Першыя карціны з крэйды і вугельчыкаў

Жанчына ўспамінае, што малявала з самага дзяцінства: *"У тры гады, калі маці адыходзіла на працу, пакідала ў швейнай машынцы крэйду, а калі не было крэйды – вугельчыкамі малявалі разам з сястрой на дзвярах. Вельмі падабаліся коні. А маці ніколі не крычала на нас і станоўча глядзела на нашую дзіцячую творчасць"*.

У школе сёстры Тэрэса і Ірэна заўсёды афармлялі насценныя газеты. А ў восьмым класе пачалі прыходзіць думкі, каб стаць бухгалтарам. Аднак лёс склаўся інакш. Са Смаргоншчыны прыехаў хлопец, які вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя Глебава, і, пачуўшы, што дзяўчыны добра малююць, прапанаваў туды паступіць. *"Мы ўзялі адрас, паехалі туды і паступілі абедзве"*, – расказвае мастачка.

Шмат з тых, хто вучыўся разам з дзяўчатамі, толькі адпрацавалі, аднак творчасцю не займаліся. А ў Тэрэсы Іосіфаўны было жаданне, і гэта ёй падабалася. Потым яе чакалі вучоба ў Акадэміі мастацтваў, праца.

Сястра Тэрэсы Варановіч Ірэна Герасім зараз жыве ў Вільні і таксама займаецца мастацкай дзейнасцю.

## Творчасць для Бога

*"Калі выйшла замуж і прыехала ў Дайлідкі, пачала пісаць працы пры касцёле. Самая першая з іх – афармленне харугваў у сольскім касцёле"*, – успамінае Тэрэса Іосіфаўна. Аднак сваёй самай важнай і асноўнай працай мастачка лічыць роспіс-рэстаўрацыю прэзбітэрыя святыні ў Солах.

*"Канешне, працаваць было складана на такой вышыні. Дапамагаў таксама брат святара. Я ад гэтай працы атрымлівала вялікае задавальненне. І сваіх подпісаў не ставіла, бо лічу, што галоўнае – гэта Бог і малітва перад роспісам, а не ўласнае "я"*, – гаворыць спадарыня Тэрэса.

Для Касцёла мастачка робіць шмат. Звычайна святары просяць яе аднавіць скульптуры, калі нешта, напрыклад, адаб'ецца. Цяпер яна піша абразы для капліцы на станцыі Ашмяны.

У Градаўшчызне быў роспіс алтара, у гудагайскім санктуарыі ёю складзены праект брамы. Вельмі блізкае сэрцу мастачкі стварэнне абразоў. У бліжэйшы час Тэрэса Іосіфаўна хоча заняцца напісаннем пейзажаў Астравеччыны, а таксама партрэтаў тых людзей, якія пакуль жывуць. *"Шкада, што адышло шмат людзей, якія былі блізкія да Бога. Я памятаю адну жанчыну – Геню Бурштыновіч. Яе неабходна напісаць па памяці. Яна ўсё жыццё аддала служэнню ў Касцёле"*, – гаворыць мастачка.

## Талент пакаленняў

Вікторыя Варановіч пераняла талент ад маці. Маляваць яна пачала таксама з дзяцінства. Мастачка дзеліцца ўспамінамі: *"Памятаю канспекты бацькоў, кожны лісток быў мной размаляваны"*.

Яшчэ маленькай дзяўчынкай Вікторыя ўважліва глядзела, чым займаецца маці, спрабавала штосьці капіяваць. Пасля заняткаў часта хадзіла да яе на працу. Тэрэса Іосіфаўна тады працавала мастаком у калгасным цэху, а пазней у школе. Дзяўчынка і там наведвала розныя творчыя гурткі.

Аднак пытанне пра выбар далейшага шляху ў дзяўчыны ўсё ж было: *"З аднаго боку, тата ў нас па прафесіі ветэрынар, а з іншага, маці – мастак. Таму я адзін час хацела стаць урачом. Але як прыйшла пара выбіраць, усё, што было звязана з мастацтвам, перамагло. Адразу я скончыла Бабруйскі мастацкі каледж. Потым была вучоба ў педагагічным універсітэце імя Максіма Танка"*.

Цяпер Вікторыя выкладае ў школе мастацтваў у Астраўцы. Маці з дачкой арганізоўваюць сумесныя выставы. Зараз разам займаюцца афармленнем стацый крыжовага шляху для капліцы на станцыі Ашмяны.



Тэрэса і Вікторыя Варановічы

## У Дайлідскай святыні

– Пахвалёны Езус Хрыстус, – зайшоў у дом і прывітаўся мужчына.

– На векі вечныя, – пачулся адказ.

Гэта з Імшы вярнуўся гаспадар дома Казімір Варановіч. Ён з'яўляецца старшынёй касцельнага камітэта ў Дайлідскай парафіі. Мужчына далучыўся да нашай размовы за кубкам гарбаты.

Спадар Казімір распавёў пра гісторыю дайлідскай святыні і паказаў фотаздымкі, шмат якіх прысвечана гісторыі парафіі.

Пасля з сям'ёй Варановічаў накіраваліся ў касцёл, каб паглядзець на тое, што стварала Тэрэса Іосіфаўна. Усе абразы, што тут знаходзяцца, напісаныя ёй. *"Цэнтральны абраз Маці Божай быў у дрэнным стане, я яго рэстаўравала"*, – гаворыць мастачка.

У святыні знаходзіцца батлейка, ля якой усе разам укленчылі. У яе афармленні таксама прымала ўдзел спадарыня Тэрэса. Злева і справа – абразы, што яна малявала.

Выходзім з касцёла. Ужо надышоў час развітвацца і ад'язджаць з Дайлідак.

Тэрэса Іосіфаўна і Вікторыя і надалей плануюць дапамагаць Касцёлу сваёй дзейнасцю. Таму хочацца ім пажадаць плённай працы, бо справа, якую робяць мастачкі, вельмі важная: творчасцю яны славяць Бога, а людзям праз мастацтва дапамагаюць набліжацца да Яго.



Роспіс у касцёле ў Солах



Абраз працы Тэрэсы Варановіч у Дайлідках

# Касцёл і сучаснасць: правер свае веды ў новым тэсце "Каталіцкага Весніка"

**1 Папа Рымскі надае ганаровы тытул Малой Базілікі тым святыням, якія вылучаюцца старажытнасцю, гістарычнай важнасцю або значэннем ў якасці паломніцкага цэнтра.**

У якіх трох мясцовасцях знаходзяцца касцёлы Беларусі, якім Ватыкан надаў статус Малой Базілікі?



а. Мінск, Будслаў, Пінск
б. Гродна, Будслаў, Пінск
в. Будслаў, Ліда, Гродна

**2 У гэтай установе ёсць магчымасць атрымаць веды па тэалогіі, гісторыі Касцёла, біблістыцы, педагогіцы, філасофіі, псіхалогіі.**



Дзе знаходзіцца свецкая каталіцкая навучальная ўстанова – Катэхетычны каледж імя Зыгмунта Лазінскага?
а. У Брэсце
б. У Баранавічах
в. У Мінску

**3 Юнакі, што адчулі ў сваім сэрцы пакліканне, паступаюць у семінарыю, дзе рыхтуюцца да святарскай паслугі.**

А ў якіх гарадах нашай краіны ёсць дзве Вышэйшыя духоўныя семінарыі?



а. У Мінску і Гродне
б. У Пінску і Гродне
в. У Віцебску і Гродне

**4 Дыяцэзія – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Касцёле.**

Колькі ўсяго дыяцэзій і архідыяцэзій у Беларусі?
а. 3
б. 6
в. 4



а. 7.
б. 5.
в. 9.

5 Імя і прозвішча адзінага ў Беларусі арцыбіскупа?



а. Антоні Дзям'янка
б. Тадэвуш Кандрусевіч
в. Аляксандр Кашкевіч

6 Колькі біскупаў у Беларусі? Лічы таксама і біскупа на пенсіі.



**7 Апостальскі нунцый – пастаянны дыпламатычны прадстаўнік Папы Рымскага ў дзяржавах, з якімі Папа падтрымлівае афіцыйныя дыпламатычныя адносіны.**

Хто з'яўляецца дзеючым Нунцыем у Беларусі?



а. Апостальскі нунцый Клаўдыё Гуджэроці
б. Апостальскі нунцый Марцін Відавіч
в. Апостальскі нунцый Габар Пінтэр

8 Як называецца міжнародны каталіцкі фестываль хрысціянскіх дакументальных фільмаў і тэлепраграм, які праходзіць у Беларусі?




а. "Magnificat"
б. "Pro Christo"
в. "Надзея"

**9 Санктуарый – святое месца, дзе Бог асаблівым чынам удзяляе сваю ласку.**

А дзе знаходзіцца санктуарый Маці Божай, які звязаны з культам абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў.



а. У Нарачы
б. У Браславе
в. У Тракелях

10 Нацыянальны санктуарый Маці Божай знаходзіцца ў:



а. Мінску
б. Гродне
в. Будславе

*Праверыць свае адказы можна на стар. 12*

***Падрыхтавала Ірына Радзевіч***

# Беларусь у "святых" гербах: Малеч

**Кожны Новы год пачынаецца з ажыятажу ў СМІ: хто паводле кітайскага ці іншага ўсходняга календара будзе "апекуном" нашага жыцця? Задавальненне ад таго, што гэты, 2017 год, з'яўляецца годам пеўня, могуць мець жыхары старажытнага мястэчка Малеч, якое знаходзіцца ў Бярозаўскім раёне на Брэстчыне.**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін, Росіца*

На атрыманым у 1645 г. разам з Магдэбурскім правам гербе Малеча бачым не толькі постаць чалавека з ключамі, але таксама і прыгожага пеўня. Хто такі чалавек з ключамі? – падобнае пытанне можа ўзнікнуць толькі ў таго, хто зусім не дакранаўся да хрысціянскай культуры і традыцыі. Мы, хрысціяне, святога Пятра, галоўнага апостала, менавіта па ключах да валадарства нябеснага, якія ён атрымаў ад Хрыста, пазнаём у іканаграфіі і ў скульптурах. І, безумоўна, усякія сумневы адпадаюць, калі бачым пеўня.

Евангелле распавядае гісторыю адрачэння Пятра і знака, які ён атрымае: "Адрачэшся ад мяне, – кажа Хрыстос, – перад тым, як певень прапяе тры разы!" І сапраўды, менавіта голас птушкі стаў для Пятра знакам: ён тройчы адмовіўся прызнавацца ў знаёмстве са сваім Настаўнікам.



Герб Малеча ў сённяшнім выглядзе адноўлены па адзіным знойдзеным адбітку гарадской пячаткі. Паколькі ён чорна-белы, то колеры адноўленага, сучаснага герба не арыгінальныя. Пячатка мае ў сабе больш дэталяў, таму можна сучасны герб лічыць спрошчанай версіяй.

А на адбітку ёсць цікавыя дэталі. Надпіс на лацінскай мове ўнізе "s petrus" здымае ўсякія сумневы: гэта святы Пётр. Мы бачым, што тварам апостал звернуты да крыжа Збаўцы, а не да пеўня, сімвала сваёй здрады. Таксама яшчэ



адна цікавая дэталь: лодка з двума рыбакамі, якія закінулі сеткі. Гэта можа быць і Пётр з Езусам, сваім Настаўнікам, але, хутчэй за ўсё, гэта Пётр са сваім братам Андрэем, таксама рыбаком, які, дарэчы, Пятра з Езусам і пазнаёміў.

З даступных крыніц немагчыма зрабіць выснову пра тое, чаму менавіта св. Пётр стаў апекуном Малеча. На жаль, да нас не дайшла назва старой царквы ў гэтым мястэчку. Верагодна, менавіта яна насіла назву святога Пятра.

Мы жадаем жыхарам Малеча пражыць новы каляндарны год пад апекай святога Пятра, галоўнага сярод апосталаў, а не пад крыламі пеўня, галоўнага сярод курэй у куратніку.



## Рэдакцыя дзякуе!

Дарагія сябры! Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Часлава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Таццяна Скурат** *(Шаркаўшчына)*, **парафіяне з Чашнікаў**, **Алена Кукліна** *(Баравуха)*, **Галіна Бука** *(Шаркаўшчына)*, **Валянціна Маісеева** *(Століца)*, **Ірына Сіманенкава** *(Мосар)*, **Даната Пачкоўская** *(Савуткі)*, **Іван Кіслы** *(Швакшты)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Марыя Шук** *(Лявонпаль)*, **Рэгіна Сідарэвіч** *(Маладзечна)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **Ганна Дарашкевіч** *(Янкавічы)*, **Антаніна Дарашкевіч** *(Янкавічы)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Галіна Драгун** *(Юркоўшчына)*, **Рамуальда Суднік** *(Струкі)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Тэрэса Зяновіч** *(Ліда)*, **парафіяне з Казлоўшчыны**, **Воўк Ф.В.** *(Сіраны)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Марыя Харнікава** *(Навасады)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Галіна Вайцяховіч** *(Смаргонь)*, **парафіяне з Браслава.**

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:
***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# Каляндар на люты



**2** **лютага – свята Ахвяравання Пана**

У гэты дзень падчас Літургіі ўзгадваецца прынясенне Дзіцятка Езуса ў святыню для выканання абраду ахвяравання. Іншая назва – свята Маці Божай Грамнічнай. Грамнічная свечка таксама сімвалізуе Марыю – пакорную слугу Пана Бога, у душы якой гарэла святло веры, надзеі і любові. Свечкі, якія асвячаюць у гэты дзень, называюць "грамнічнымі", бо іх запальваюць у час навальніцаў, каб апека Маці Божай выратавала ад небяспекі стыхіі. Запаленую грамнічную свечку таксама даюць у рукі чалавеку пры адыходзе з гэтага свету, каб Найсвяцейшая Панна Марыя прывяла яго душу ў неба.

**3** **лютага – успамін святога Блажэя, біскупа і мучаніка**

Святы Блажэй з'яўляецца апекуном пры хваробах горла. Адна з легендаў гаворыць, як аднойчы маленькі хлопчык падавіўся косткаю, што засела ў горле і стала прычынаю моцнага ацёку. Хлопчыку пагражала ўдушэнне. Тады біскуп са спачуваннем дакрануўся да шыі хлопчыка і зрабіў над ім знак крыжа. І раптам хлопчык пачаў роўна дыхаць, ацёк зменшыўся, а потым зусім знік. Вестка пра незвычайнага лекара хутка разлягелася па ваколіцы, што было вельмі нязручна для рымскіх уладаў. Адразу просьбамі, а потым катаваннем яны імкнуліся прымусіць біскупа адмовіцца ад Хрыста, але святы Блажэй не адмовіўся. Ён быў забіты мечам прыкладна ў 316 годзе. У дзень яго літургічнага ўспаміну асвячаюцца свечкі, якія называюцца "блажэйкамі". У час благаслаўлення святар, трымаючы ў руках дзве скрыжаваныя свечкі, моліцца: "Няхай Бог праз заступніцтва святога мучаніка Блажэя вызваліць цябе ад усялякіх хваробаў горла і ад усялякага зла".

**5** **лютага – успамін святой Агаты**

Яна была дзяўчынай, якая, прагнучы захаваць чыстасць і вернасць Хрысту, прыняла мучаніцкую смерць у Катаніі, на Сіцыліі, каля 250 г. Праз год пасля яе смерці адбылося вывяржэнне вулкана Этна. Патокі лавы пагражалі знішчыць увесь горад, але яны спыніліся, калі жыхары Сіцыліі, просячы ў малітвах заступніцтва Агаты, паклалі на іх шляху вэлюм, што належаў святой.

Дзякуючы гэтаму цуду Агату пачалі лічыць апякункай, якая ахоўвае ад пажараў. У дзень успаміну св. Агаты благаслаўляюцца хлеб і вада. У малітве асвячэння прыпамінаецца, што св. Агата з'яўляецца асаблівый заступніцаю і апякункаю ў небяспецы пажару.

**11** **лютага – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Лурда**

У гэты дзень Каталіцкі Касцёл успамінае Маці Божую Лурдскую і адначасова адзначае чарговы Сусветны дзень хворых, устаноўлены св. Янам Паўлам II у 1992 г. у 75-ю гадавіну фацімскага аб'яўлення і ў 11-ю гадавіну замаху на жыццё самога Святога Айца.

Менавіта ў гэты дзень у святынях можна атрымаць сакрамант намашчэння хворых.

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*

## На люты прыпадаюць дні нараджэння і імяніны наступных святароў і біскупаў:

**1 лютага** – гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **біскуп Юзаф Станеўскі**, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі; дзень нараджэння адзначаюць **а. Раман Цесляк CSsR** *(в. Парэчча)*, **кс. Ежы Беганьскі** *(Ліда)*;

**2 лютага** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Віталь Даніловіч MIC** *(Орша)*;

**4 лютага** – дзень нараджэння і імяніны адзначае **а. Андрэй Шчупал CSsR** *(в. Новая Руда)*;

**5 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віктар Мыслюк**;

**6 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Антоні Грэмза**;

**7 лютага** – дзень нараджэння адзначае **а. Збігнеў Драгула CSMA** *(в. Старыя Васілішкі)*;

**8 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Міхал Стэцкевіч** *(в. Бердаўка)*;

**9 лютага** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Павел Калеснік** *(в. Жодзішкі)*, **кс. Антоні Адамовіч**;

**10 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*, гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Андрэй Фёдараў**;

**12 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вячаслаў Матукевіч**;

**14 лютага** – імяніны адзначаюць **кс. Валянцін Хведук**, **кс. Кірыл Бардонаў** *(Мінск)*, **кс. Валянцін Станкевіч** *(в. Волма, Дзяржынскі р-н)*;

**15 лютага** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Юрый Касабуцкі**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі;

**16 лютага** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Юрый Ясевіч** *(Астравец)*, **кс. Віктар Велівіс** *(в. Грандзічы)*;

**17 лютага** – імяніны адзначаюць **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)* і **кс. Аляксей Юркайць** *(Параф'янава)*;

**18 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*;

**19 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Гардзейчык** *(в. Свіранкі)*;

**20 лютага** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Пётр Пятрага** *(в. Касцяневічы)*, **кс. Андрэй Яркавец** *(Бабруйск)*, імяніны адзначае **кс. Леон Лішык** *(в. Волпа)*;

**21 лютага** – імяніны адзначае **кс. Роберт Мацееўскі** *(Мсціслаў)*;

**22 лютага** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Кшыштаф Мянкіна** *(Мёры)*, **кс. Віталь Внароўскі** *(в. Адэльск)*;

**23 лютага** – дзень нараджэння адзначае **а. Станіслаў Пытэль CSMA** *(в. Васілішкі)*;

**25 лютага** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Сяргей Якімовіч** *(в. Мураваная Ашмянка)*, **кс. Леон Лішык** *(в. Волпа)*;

**26 лютага** – імяніны адзначаюць **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**, **біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB** – дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, **кс. Аляксандр Мацкевіч**, **кс. Аляксандр Шмет**, **кс. Аляксандр Улас OFMConv** *(Радашковічы)*;

**28 лютага** – імяніны адзначаюць **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*, **а. Раман Цесляк CSsR** *(в. Парэчча)*, **кс. Раман Ялоўчык**, **кс. Раман Катліміоўскі**, **кс. Раман Рачко**.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*

# Святая Агата
## 235-251 гг.

**На працягу некалькіх стагоддзяў у Рыме пабудавалі тры касцёлы, прысвечаныя гэтай святой. Людзі як бы не маглі насыціцца яе святасцю і заступніцтвам. Кожны новы храм, кожны будынак сведчыў: мы табе давяраем, апякуйся намі!**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін, Расіца*



Гэта паказальна, што святая Агата, сама паходжаннем з Сіцыліі, з горада Катанія, змагла паварнуць да сябе патрабавальных жыхароў Рыма. Яе гісторыя ў прынцыпе падобная да гісторыі святых мучаніц трэцяга стагоддзя. Яе асабістая сустрэча з Хрыстом і прыняцце веры былі звязаныя з пастановай прысвяціць сваё жыццё Богу праз дзявоцтва. Для многіх, а таксама для Квінцыяна, намесніка Сіцыліі, гэта было дзівацтвам і вычварэннем. Не дабіўшыся ад Агаты згоды на сужэнства, гэты рымскі чыноўнік з дапамогай адміністрацыйнага рэсурсу пачынае ламаць жыццё Агаты. Спачатку спрабуе яе зняславіць, скампраметаваць з дапамогаю жанчыны лёгкіх паводзін, пазней, выкарыстоўваючы ганенні на хрысціянаў, аддае яе на катаванні. З гісторыі вядома, што, дамагаючыся адрачэння веры, каты адрэзалі Агаце грудзі. Таму вельмі часта на абразах яна прадстаўленая з адзеннем, якое прыцiскае да сябе, або з падносам, на якім ляжаць адсечаныя грудзі.

Вельмі цікавыя аповеды пра тое, якім чынам святая мучаніца Агата апякуецца людзьмі. Да сённяшніх часоў у дзень яе літургічнага ўспаміну асвячаецца так званы "хлеб святой Агаты". Яго вернікі захоўваюць як матэрыяльны знак апекі Божай і святой Агаты.

Праз год пасля яе смерці выбухнуў вулкан Этна, пагражаючы знішчыць горад Катанія. І, паводле розных крыніц, працэсія з рэліквіямі або з часткай адзення мучаніцы спыніла мора лавы(!).

З тых часоў святая Агата лічыцца апякункай людзей ад пажараў. Гэта падаецца неверагодным, але шматлікія вернікі сведчаць, што атрымлівалі цудоўнае ацаленне ад пажару або іншай небяспекі, молячыся да святой Агаты. Адна старэйшая жанчына распавядала, што калі ў яе здарыўся пажар і агонь ахапіў гаспадарчыя будынкі, то вецер быў такі моцны і скіраваны на хату, што выдавалася: справа некалькіх хвілін і нічога не застанецца. Яна асабіста, узяўшы ў руку кавалачак хлеба святой Агаты, у напрамку агню зрабіла знак крыжа і памалілася. Эфект быў неверагодным, не баюся гэтага слова, цудоўным: агонь паядаў хлявы, а да хаты не мог дацягнуцца. Складвалася ўражанне, што ён разбіваецца аб нябачную сцяну(!).

Агату на абразах можам пазнаць па пальмавай галінцы, сімвале мучаніцтва, а таксама па прадметах мучэння – шчыпцах, адсечаных грудзях. Таксама на яе абразах можна ўбачыць хлеб і агонь.

# Калі Касцёл будзе абараняць свае інтарэсы?

*“Так здарылася, што на фірме, дзе я працаваў, адбылося значнае скарачэнне штатаў. Пасля страты працы я так і не змог нідзе ўладкавацца. Праз знаёмых мне параілі падпрацоўку на чатыры месяцы ў Расіі.*

*На новым месцы працы прыкладна траціна былі беларусы, астатнія – мясцовыя. Праз некалькі дзён усе даведаліся, што я католік. Яны не вельмі добра адрэагавалі на гэта. Сталі казаць пра тое, што каталіцтва – хлусліваая рэлігія, адышла ад сапраўднага хрысціянства. Што ўсе Папы Рымскія на самай справе таемна пакланяюцца сатане і да таго падобнае. Я адкінуў усю гэтую бязглуздзіцу.*

*Але тады яны мяне знайшлі “УКантакце” і накідалі ў асабістыя паведамленні спасылкі на артыкулы, якія размешчаны на праваслаўных сайтах. Я перайшоў па спасылках і проста быў у жаху! Выключна агрэсіўныя рэсурсы! Тыя, што не з'яўляюцца праваслаўнымі, усе ворагі. Шмат абразлівых рэчаў пра Касцёл і Папу. Нядзіўна, што ў людзей, якія ўсё гэта чытаюць, такі вялікі негатыў да ўсяго неправаслаўнага. Потым скінулі мне спасылкі на фільмы Галіны Царовай пра шкоду каталіцтва. І на іншыя фільмы, дзе праваслаўныя святары дрэнна гаварылі пра Касцёл і Папу.*

*Я калегам сказаў, што іх справа – верыць гэтым сайтам ці не. Католікі – такія ж хрысціяне, як і праваслаўныя, і нармальна ставяцца да прадстаўнікоў іншых хрысціянскіх канфесій. Яны нібы супакоіліся, але потым, калі ў адну з субот было нешта накшталт карпаратыву, напіліся і сталі сцвярджаць, што нядоўга засталося, што навялі ў Данецку парадак, разагналі ўніятаў і католікаў, што прыйдуць і ў “Белоруссию” (прынцыпова ніколі не называлі нашу краіну правільна, хоць я ўказваў на правільную назву), што “палову ўпартых, як ты, выражам, астатнія самі пяройдуць у праваслаўе” і падобныя непрыемныя рэчы.*

*Я вось колькі пражыў у Беларусі, ні разу не чуў ні ў касцёле, ні ад сваіх знаёмых, ні на каталіцкіх інтэрнэт-сайтах, наогул ні ад каго, што трэба рэзаць праваслаўных ці неяк ім шкодзіць. Наадварот, заўсёды падкрэслівалася, што праваслаўныя – такія ж хрысціяне, як і мы, што яны з'яўляюцца часткай Усходніх Цэркваў. Пра тое, што іх трэба добраахвотна ці прымусова пераводзіць у каталіцтва, таксама ніколі не гаварылася. Нават калі нейкі праваслаўны спрабуе перайсці ў каталіцтва, яму ў Касцёле для гэтага ствараецца шмат пэўных умоў.*

*Зразумела, што афіцыйна праваслаўная царква ніколі не будзе казаць тое, пра што я вымушаны быў слухаць. Але ўсе гэтыя простыя праваслаўныя чэрпаюць сваё меркаванне з інтэрнэт-сайтаў і фільмаў, якія ствараюцца альбо з афіцыйнай падтрымкай праваслаўнай царквы, альбо неафіцыйнай (у гэтым выпадку які-небудзь святар піша штокольвечы як прыватная асоба).*

*Чаму Папа сустракаецца з патрыярхам Кірылам і не ставіць пытанне пра тое, каб спыніць падтрымку ўсіх гэтых патокаў непрыемнасцяў?*

*Чаму Касцёл не абараніў вернікаў на Данбасе? Бо нас будзе чакаць іх доля. На тэрыторыі Беларусі дзейнічаюць дзясяткі арганізацый, якія спансаруюцца Расіяй і прапагандуюць ідэі страты нашай краінай суверэнітэту, а таксама што павінна наступіць усеагульная “перамога праваслаўя”. Любыя іншыя хрысціянскія плыні імі катэгарычна адкідаюцца.*

*Чаму Папа, каторы з'яўляецца кіраўніком больш як мільярда католікаў ва ўсім свеце, не можа паставіць пытанне пра дзейнасць і мэты гэтых арганізацый? Нас аддаюць пад так званы “рускі свет”? Палову выражуць, палову перавядуць у праваслаўе. З гэтай нагоды правядуць у касцёлах па ўсім свеце памінальную Імшу, а потым усе зоймуцца сваімі штодзённымі справамі, і пра нас – мільён беларускіх католікаў – забудуцца?*

*Дакладней, пра паўмільёна, бо палову мільёна выражуць. Калі Касцёл будзе абараняць свае інтарэсы і інтарэсы сваіх вернікаў? Калі, нарэшце, будзе дадзены адпор такім намерам?”*

*Яўген*





**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Дарагі брат! Рэчы, якія Вы апісваеце ў сваім пытанні, вельмі гаваркія. Ужо самі факты і словы сведчаць пра тое, хто ёсць хрысціянінам, а хто не.

Езус Хрыстус перад тым, як пайсці на мукі, маліўся да Айца за Сваіх вучняў: “Як Ты Мяне паслаў на свет, і Я іх паслаў на свет, і за іх Я пасвячаю Сябе Самога, каб і яны былі асвечаны ў праўдзе. Я не толькі за іх прашу, але і за тых, што дзякуючы слову іх уверацъ у Мяне, каб усе былі адно; як Ты, Ойча, ува Мне, а Я ў Табе, каб і яны былі адно ў Нас, каб свет уверыў, што Ты Мяне паслаў” (Ян. 17, 18-21).

Апостал Павел піcаў да карынцянаў: “Браты, у імя Госпада нашага Езуса Хрыста малю вас, каб усе вы гаварылі адно і каб не было сярод вас падзелаў, каб вы былі аднаго розуму і аднае думкі” (1 Кар. 1, 10). Апостал Пётр сугучна з ім пісаў: “Нарэшце, будзьце ўсе аднадумныя, спагадныя, поўныя братняе любові, міласэрныя, пакорныя, не адгаджайце злом за зло, ані праклёнам за праклён, але, наадварот, благаслаўляйце, бо на тое вы пакліканы, каб успадкаемілі блаславенне” (1 Пт. 3, 8-9).

Пра супольнасць першых хрысціянаў у “Дзеяннях апосталаў” гаворыцца: “І адзін дух ды адно сэрца ажыўлялі ўсіх вернікаў; што мелі, ні адзін не называў сваім, бо ўсё ў іх было супольнае. І апосталы з вялікай сілай сведчылі пра ўваскрасенне Госпада Езуса, і ласка вялікая была на ўсіх іх” (Дз. 4, 32-33).

“Па пладах іхніх пазнаеце іх. Няўжо з церня збіраюць вінаград або з асоту фігі?” (Мц. 7, 16).

Згодна з каталіцкім вучэннем, якое падае “Дагматычная канстытуцыя II Ватыканскага сабору пра Касцёл”, “адзіны Хрыстовы Касцёл, які наш Збаўца (...) устанавіў навекі як калону і падмурак праўды, знаходзіцца ў Каталіцкім Касцёле, якім кіруюць наступнік Пятра і біскупы, што застаюцца з ім у супольнасці, хоць па-за яго складам знаходзіцца шмат элементаў асвячэння і праўды, якія, як уласцівыя дары Хрыстовага Касцёла, схіляюць да каталіцкай еднасці”.

У сваім стаўленні да праваслаўных Каталіцкі Касцёл, шукаючы яднання, пра якое маліўся Хрыстос, кіруецца прынцыпамі, выкладзенымі ў “Дэкрэце II Ватыканскага сабору” пра экуменізм, спадзеючыся, “што пасля ліквідацыі перашкод, якія аддзяляюць Заходні і Усходні Касцёлы, настане нарэшце адно жыццё, угрунтаванае моцна на вуглавым камені, Езусе Хрысце, Які з дваіх учыніць адно”. У дэкрэце сведчыцца паважнае стаўленне Каталіцкага Касцёла да літургічных і кананічных звычаяў праваслаўных цэркваў, “паколькі пэўная разнастайнасць у звычаях і паводзінах зусім не перашкаджае еднасці Касцёла, але надае яму хараство і значна прычыняецца да выканання яго місіі”.

Такім чынам, Каталіцкі Касцёл як сапраўдны Касцёл Хрыстовы робіць тое, што магчыма для вяртання аддзеленых братоў і сёстраў. Але працэс яднання магчымы толькі пры ўмове, што іншы бок таксама захоўвае вернасць Госпаду і шукае Яго волі. Фанатычныя і агрэсіўныя настроі тых, хто называе сябе хрысціянамі, выкрываюць іх хлуслівасць і крывадушнасць. “Выйшлі яны з нас, але не былі з нас, бо калі б былі з нас, засталіся б з намі; але гэта сталася, каб выявілася, што не ўсе яны з нас” (1, Ян. 2, 19). “Гэта тыя, што саміх сябе аддзяляюць, душэўныя, што не маюць Духа” (Юд. 1, 19). “Як Янні і Ямбар працівіліся Майсею, так і яны працівяцца праўдзе, людзі папсаванага розуму, нявыпрабаваныя ў веры. Але яны далёка не зойдуць. Бо бязглуздасць іх выявіцца ўсім так, як і тых стала вядомай” (2, Цім. 3, 8-9).

Каталіцкі ВЕСНІК №1(70) студзень 2017 г.

## Хвала Хрысту!



*27 студзеня адзначае Дзень нараджэння **ксёндз Аляксандр Рагіня**, які цяпер выконвае дыпламатычную місію Апостальскай сталіцы ў дзяржаве Чад (Афрыка).*

*Вернікі нашай парафіі памятаюць ксяндза Аляксандра, заўсёды радыя сустрэчы з ім. Гэта інтэлігентны, эрудаваны, адданы Пану Богу святар, які знаходзіў словы пераканання для кожнага: ад зусім юных асобаў да людзей сталага ўзросту, якія нясмела рабілі першыя крокі насустрач Пану Богу.*

*Ад усяго сэрца віншуем Вас, паважаны ксёндз Аляксандр! Няхай Пан Бог шчодра адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, а Дух Святы хай узмацняе і памнажае Вашу мудрасць! Маці Божая няхай акрывае сваім плашчом апекі, падтрымлівае ў цярпенні ў далёкай краіне! Няхай зерне, засеянае Вамі на Божай ніве, прыносіць добры плён!*

***Ад імя вернікаў касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім, Даната Сярогіна***



## Паважаная сястра Таццяна Данч!

*З нагоды імянін ад усяго сэрца жадаем Вам добрага здароўя на доўгія гады, цярплівасці і радасці. Няхай Пан Бог, якому Вы даверыліся, блаславіць Вас у гэтай паслузе, а святая Цэцылія дапамагае выконваць абавязкі арганісткі нашага касцёла і кіраўніка дзіцячага і моладзевага гуртоў яшчэ доўга!*

*Мы молімся за Вас і просім нястомнай апекі Маці Божай Глыбоцкай Падхорнай і дароў Святога Духа!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Віншуем і шчыра дзякуем!



*Мы, вернікі парафіі Святых Апосталаў Пятра і Паўла, што ў Дрысвятах, сардэчна дзякуем нашаму **пробашчу Генадзю Ляўкову** за самаадданую працу на Божай ніве і віншуем яго з днём імянінӑў, які ён адзначае 19 студзеня. У нашай парафіі ксёндз Генадзь працуе трэці год. Гэта вельмі сціплы чалавек, які прыкладам сваёй цярплівасці вучыць нас любіць свайго бліжняга і Пана Бога.*

***Хай Вас адорыць Божа Міласцівы***
***Сваёю ласкай, дабрынёй, цяплом!***
***І хай супольнасць наша Вас называе***
***Славутым нашым святаром!***

***Удзячныя парафіяне з Дрысвят (Браслаўскі р-н)***

### Адказы на тэст са старонкі 9

1б, 2б, 3б, 4в, 5б, 6в, 7в, 8а, 9б, 10в

Калі ў вас атрымалася правільных адказаў

1-3 – кепска. Вам неабходна імкнуцца як мага больш даведвацца пра Касцёл!

4-6 – так сабе. Дадатковыя веды пра Касцёл Вам не перашкодзяць!

7-10 – У Вас цудоўныя веды пра Касцёл у нашай краіне!

## Паважаны ардынарый Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч!

*Дазвольце павіншаваць Вас з нагоды трохгоддзя біскупскай працы!*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай Валадаркі Азёраў!*

*Няхай Анёл-ахоўнік заўсёды чувае над Вамі, а Усемагутны Бог, Які ўказаў Вам дарогу жыцця, хай узнагародзіць за ўсе малітвы, за мудрыя казанні, за прыклад у пабожнасці і дабрыні, за адкрытае і чулае сэрца да людзей!*

***Святары, сёстры законныя, парафіяне браслаўскай парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі***



## Хвала Хрысту! Паважаны ксёндз Юрый Жаўняровіч!

*З нагоды Дня нараджэння (31 студзеня) прыміце самыя шчырыя пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады, творчых поспехаў у працы, невычэрпнай энергіі, вытрымкі і цярпення! Жадаем Божага блаславлення, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога!*

*Шчыра дзякуем за Вашы цёплыя, душэўныя адносіны да кожнага з нас, за Вашу ласкавую шчырую ўсмешку, за павучальныя і змястоўныя казанні.*

***Вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа, в. Ахрэмаўцы (Браслаўскі р-н)***

## Няхай добры Бог аддзячыць нашаму любаму святару

*Хрыстус, Хрыстус нам нарадзіўся...*

**У чарговы раз на нашым зямным шляху, у гэтай доўгай і нялёгкай пілігрымцы, Бог даў нам вялікую ласку – перажыць урачыстасць Нараджэння Божага Сына.**

Нашы парафіяне рыхтаваліся да гэтай важнай падзеі яшчэ падчас Адвэнту. Праводзіліся адвэнтовыя рэкалекцыі, калі кожны мог духоўна падрыхтавацца, ачысціцца ад грахоў. Шмат сілы і старання прыклаў наш ксёндз Генадзь Ляўкоў, каб упрыгожыць касцёл да свята. Разам з парафіянамі былі зроблены цудоўныя дэкарацыі, з асаблівай фантазіяй выканана батлейка. На стол і сценах пераліваліся рознакаляровымі агеньчыкамі сняжынкі. Касцёл упрыгожвала шэсць ёлак.

Пад ціхую музыку заходзілі вернікі ў святыню і ў спакоі набліжаліся да батлейкі, каб памаліцца і палюбавацца прыгажосцю Нараджэння Пана. У гэты святочны дзень сабралася шмат людзей, не толькі парафіян, але і гасцей.

У час урачыстай святой Імшы ксёндз Генадзь звярнуўся да прысутных з важнымі словамі: “Езус сёння прыходзіць да нас, каб сказаць: “Глянь на свайго брата, глянь на сваю сястру”. Мы чынім вялікі грэх, калі памятаем толькі пра сябе і пра ўласныя праблемы. Давайце перажывём гэтыя святы з думкай пра іншых. Што чакае ад мяне хворы або адзінокая асоба, забытая і пакінутая?”

У канцы Імшы ў гэты святочны вечар усе дзяліліся аплаткамі з добрымі пажаданнямі і прасілі прабачэння за дрэнныя ўчынкі.

Узвышанае, прыгожае і душэўнае свята Божага Нараджэння атрымалася на славу! Незабыўнае ўражанне засталося і ад святочнага феерверку, які падрыхтаваў наш шаноўны ксёндз Генадзь.

Няхай добры Бог аддзячыць нашаму любаму святару за шчырую, бескарыслівую, добрасумленную працу і цёплую сардэчнасць да людзей моцным здароўем!

***Вернікі парафіі Святых Апосталаў Пятра і Паўла, в. Дрысвяты (Браслаўскі р-н)***

## Падзяка святару

*У гэтыя святочныя дні па ўсёй зямлі адбываецца цуд. У нашай шаркаўшчынскай парафіі таксама вялікае шчасце і радасць! Пан Бог на працягу многіх гадоў робіць нам падарунак у асобе цудоўнага **ксяндза Кшыштафа Сілкоўскага.** Дзякуючы яго стараннасці, руплівай пастырскай працы, яго вялікай і шчодрай душы касцёл у святую ноч перамяніўся ў рай!*

*Кожны год з вялікім задавальненнем і радасцю вернікі запаўняюць касцёл. Але тое, што ўбачылі сёлета, – гэта сапраўды вялікі цуд! Такой прыгажосці, урачыстасці я яшчэ ніколі не бачыла ў сваім жыцці. Здаецца, што апынуўся на небе! Ад убачанага хараства людзі не маглі прыйсці ў прытомнасць. Нават не хапае слоў, каб апісаць убачанае! І ўсё гэта дзякуючы нашаму паважанаму ксяндзу Кшыштафу.*

*Шмат гадоў працуе ксёндз з намі. За яго ласкавую ўсмешку, за яго гатоўнасць кожнаму дапамагчы, параіць, падтрымаць, за вялікую цярплівасць да нас – за ўсё гэта яму павага, любоў і гонар ад вернікаў. Няма ў свеце больш паважанага і любімага пробашча, як ксёндз Кшыштаф Сілкоўскі. Няхай Пан Бог і далей дае сілы і здароўе нашаму ксяндзу быць побач з намі, з шаркаўшчынскай парафіяй! А мы заўсёды будзем паважаць і ганарыцца ім.*

***З памяццю ў малітве, Эльвіра Сокалава і іншыя вернікі шаркаўшчынскай парафіі***

## Шаноўны ксёндз-пробашч Алег Півавар!



*Усе мы, вернікі валкалацкай парафіі Яна Хрысціцеля, выказваем глыбокую павагу і шчырыя словы падзякі за арганізацыю і падрыхтоўку свята на Божае Нараджэнне.*

*Пасля святочнай нядзельнай Імшы мы былі запрошаны ў наш сельскі Дом культуры на ўрачысты канцэрт з нагоды Божага Нараджэння, дзе змаглі паглядзець “Калядную батлейку”.*

*Вельмі ўразіла ўсіх прысутных нечаканае з'яўленне на сцэне нашага святара Алега. Разам з мужчынскай вакальнай групай ён праспяваў песню “Трыумфы Караля Нябёсаў”, што выклікала гучныя авацыі ў глядзельнай зале. Пранікнёна прагучала старажытная польская гуральская песня “Ой, малюські”, дзе саліраваў ксёндз Алег, а падпявалі дзяўчаткі з вакальнага гурта.*

*Важна тое, што ўсе дружна і зладжана рыхтаваліся да правядзення гэтага свята. Вучні нашай Валкалацкай школы паказалі сцэнку-батлейку, народны калектыў мясцовага Дома культуры і хор нашага касцёла заспявалі калядкі, вернікі з капліцы ў Гарадзішчы прачыталі прыгожыя калядныя вершы. Многа светлых пачуццяў засталося ў сэрцах парафіянаў пасля гэтага святочнага выступлення.*

*Хай будуць з Вамі, ксёндз Алег, заўсёды Божае блаславленне, апека Маці Божай і Анёл Ахоўнік!*

***З падзякай і павагай да Вас, Вашы парафіяне з валкалацкай парафіі***

# “Хочаце мець дасканалую парафію? Тады ніякіх плётак!”: Папа Францішак супраць пляткарства ў парафіях

**Сведчыць аб Езусе прыкладам хрысціянскага жыцця, канкрэтнымі ўчынкамі і без пляткарства, заклікаў Папа Францішак вернікаў парафіі Санта-Марыя-а-Сэттэвілле, у італьянскім горадзе Гуідонія-Монтэчэльё. Пантыфік наведаў яе вечарам 15 студзеня 2017 г. з пастырскімі візітам.**

Спачатку Святы Айцец памаліўся разам з мясцовым святаром, 47-гадовым кс. Джузэпэ Бэрардзіна, паралізаваным ужо на працягу двух гадоў. Затым ён сустрэўся з парафіяльнай моладзю і дзецьмі. Францішак распавёў ім, што галоўным чынам вера перадаецца праз сведчанне, а не паўтарэнне словаў.

*“Калі маем сябра, сяброўку, якія не вераць, не трэба казаць ім: “Ты павінен верыць таму, таму і таму...” і тлумачыць усё. Так не трэба рабіць! Гэта называецца празелітызмам, а мы хрысціяне ім не павінны займацца. Што ж тады рабіць? Калі нельга тлумачыць, што я павінен рабіць? Жыць такім чынам, каб ён ці яна спыталіся ў мяне: “Чаму ты жывеш так? Чаму робіш так?” І тут так, трэба тлумачыць”,* – падзяліўся Папа і дадаў, што сведчанне даецца “словамі, сэрцам і рукамі”.

Падчас сустрэчы з парафіяльнымі актывістамі Святы Айцец заклікаў іх захоўваць веру нават у моманты выпрабаванняў. Папа прызнаўся, што і сам часам “крочыў у цемры веры”. *“Паважай цемру ў душы. Пазней Пан абудзіць веру. Вера – гэта дар Пана. Нам трэба толькі захоўваць яго. Нельга навучыцца мець веру: вера прымаецца як дар”,* – сказаў ён.

Падчас сустрэчы з хворымі, Пантыфік заўважыў, што нават перад абліччам рэчаў, якія немагчыма патлумачыць, важна памятаць, што Езус захацеў быць блізка да людзей таксама і ў пакутах.



Кульмінацыяй пастырскага візіту Францішка стала Эўхарыстыя, якую ён узначаліў у мясцовым касцёле. Перад гэтым Папа паспавядаў некалькі чалавек. У сваёй гамiліі Пантыфік заўважыў, што парафія становіцца няздольнай даваць хрысціянскае сведчанне, калі ў ёй прысутнічаюць плёткі. Святы Айцец адзначыў, што апосталы ніколі не гаварылі кепска адзін пра аднаго.

*“Хочаце мець дасканалую парафію? Тады ніякіх плётак! Калі маеш штосьці супраць кагосьці, ідзі і распавядзі яму ў твар або скажы пробашчу. Але ніколі паміж сабой! Гэта будзе знакам таго, што Святы Дух прысутнічае ў парафіі”,* – сказаў Папа.

Перш чым пакінуць Гуідонію-Монтэчэльё Пантыфік прывітаў вернікаў, якія чакалі яго на вуліцы перад касцёлам і пажадаў мясцовым жыхарам міру і Божага благаслаўлення.

*Ватыканскае радыё*



## Каталікі, праваслаўныя і пратэстанты будуць святкаваць Вялікдзень у адзін дзень

**У 2017 годзе галоўнае свята ўсіх хрысціян — Уваскрасенне Хрыстова — будзе асаблівым: усе канфесіі адзначаць яго ў адзін дзень, 16 красавіка. У апошні раз гэта адбывалася ў 2014 годзе.**

Разлік даты Вялікадня залежыць ад поўні, паколькі старазапаветнае свята было ўсталявана ў памяць збавення габрэйскага народа ад егіпецкай няволі. У старажытных габрэяў Пасха была непераходным святам і адзначалася ад 14 да 21 чысла месяца нісана (па месяцовым календары), які амаль адпавядаў сучаснаму сакавіку.

Хрысціянская Пасха святкуецца ў першую нядзелю пасля вясновай поўні – першай поўні, насталай пасля дня веснавога раўнадзенства. Абедзве Пасхаліі – Александрыйская і Грыгарыянская – заснаваныя на гэтым прынцыпе. Калі поўня раней за 21 сакавіка, то велікодной лічыцца наступная поўня (+ 30 дзён). Калі велікодная поўня выпадае на нядзелю, то Вялікдзень святкуецца ў наступную нядзелю.

Аднак ўсходнія (праваслаўныя, грэка-каталікі і вернікі старажытнаўсходніх цэркваў) і заходнія (каталікі лацінскага абраду і пратэстанты) хрысціяне выкарыстоўваюць розныя Пасхаліі, што прыводзіць да таго, што адно і тое ж правіла прыводзіць да розных дат.

У новазапаветнай Царкве Пасха святкуецца ў памяць Уваскрасення Езуса Хрыста. Тайная вячэра, пакуты і смерць Хрыста адбываліся напярэдадні Уваскрасення Хрыстова, а ў першы дзень тыдня пасля першага дня яўрэйскага Вялікадня Гасподзь Уваскрос з мёртвых.

Слова “Пасха” паходзіць ад габрэйскага “Песах” і даслоўна перакладаецца як “праходжанне міма”, маючы значэнне збавення, пераходу ад смерці да жыцця.

*katolik-gomel.by*

# Калі будзе выдадзены беларускі спеўнік?

**У рэдакцыю “Каталіцкага Весніка” звярнулася чытачка Таццяна Віршыч з г. Іўе з такім пытаннем: *“У інтэрв’ю “Кс. Тадэвуш Вышынскі адзначае 60 гадоў святарства. Эксклюзіўнае інтэрв’ю для “Каталіцкага Весніка” ад 4 чэрвеня 2016 года кс. Тадэвуш прамовіў наступныя словы: “Я хацеў бы таксама крыху распавесці пра беларускі спеўнік, які распрацаваны цягам гэтых гадоў у семінарыі. Ён ужо амаль гатовы да выдання! Засталося ўнесці мінімальныя праўкі ў тэкст – і ўсё! Ведаеце, гэта мая мара, гэта маё самае гарачае жаданне: патрымаць у руках выдадзены і зацверджаны Канферэнцыяй Каталіцкіх Біскупаў Беларусі беларускі спеўнік для ўсяго Касцёла ў Беларусі. У сувязі с трагічнай гібеллю святара 23 снежня, ці ўдалося кс.Тадэвушу здзейсніць сваю мару? Ці быў выдадзены беларускі спеўнік?”***

Як даведалася рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”, на жаль, ксяндзу Тадэвушу так і не ўдалося здзейсніць сваю мару: патрымаць у руках выдадзены і зацверджаны Канферэнцыяй Каталіцкіх Біскупаў беларускі спеўнік для ўсяго Касцёла ў нашай краіне. Як паведаміў Уладзімір Неўдах, старшыня секцыі касцёльнай музыкі, гэты спеўнік паступова рыхтуецца да выдання, праца над ім блізкая да завяршэння. “Фінансавых складанасцей мы не маем, хутка гэты спеўнік пабачыць свет. Шкада, што ксёндз Тадэвуш не дажыў да гэтага,” – сказаў спадар Уладзімір. Што ж, будзем спадзявацца, што ўжо хутка беларускія каталікі атрымаюць гэты спеўнік.

Праўда, адна знаёмая арганістка, якая вельмі прасіла не называць яе імя (беларуская звычка – заўв. аўт), сказала, што для Бога хутка – гэта вечнасць: “Яны дзесяць гадоў яго рыхтуюць, і яшчэ дзесяць будуць рыхтаваць”. Таму зараз, па яе словах, кожная парафія карыстаецца тым, што сама напрацавала.

У мінулым годзе споўнілася дваццаць пяць гадоў з моманту адраджэння структур Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. У міжваенны час палякі за меншы тэрмін змаглі з нуля адрадзіць дзяржаву, стварыць усе неабходныя інстытуцыі. Іх праца лягла ў падмурак стварэння сучаснай польскай дзяржавы. А ў нас за чвэрць стагоддзя не паспелі стварыць адзінага беларускага спеўніка для Касцёла.

На Эўхарыстычным Кангрэсе, які праходзіў у мінулым годзе ў Гродне і быў прымеркаваны да 25-годдзя ўтварэння Гродзенскай дыяцэзіі і адраджэння касцельных структур у Беларусі, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі зазначыў “Каталіцкаму Весніку”: “Касцёл у Беларусі прайшоў юнацкі ўзрост і ўступіў у эпоху сталасці”. Хацелася б, каб гэта сапраўды быў перыяд сталасці, а не застою.

***Зміцер Лупач***



Каталіцкі ВЕСНІК
№1(70)
студзень 2017 г.



# ПАЗНАВАЙКА

## Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

### Так або не?

У гэтым заданні змешчана некалькі выказванняў. Некаторыя з іх правільныя, а некаторыя – не. Твая задача вызначыць дзе праўда, а дзе падман. Насупраць кожнага выказвання пішы ТАК або НЕ.

*Ёсць 11 Божыхзапаведзяў — не

*Выкананне Божых запаведзяў захоўвае ад жыццёвых «крушэнняў»

*І дарослыя і дзеці абавязаны трымацца правіл, якія змешчаны ў 10 Божых запаведзях

*У 10 запаведзях паказаны абавязкі чалавека толькі ў адносінах да Бога.

*Божыя запаведзі дапамагаюць адрозніваць святасць ад граху

### Ці добра ты ведаеш Божыя запаведзі?

Самастойна або з дапамогай бацькоў злучы стрэлкамі лічбы і Божыя запаведзі ў правільным парадку

* НЕ КРАДЗІ
* НЕ МАЙ ІНШЫХ БАГОЎ, АПРОЧ МЯНЕ
* НЕ ЎЖЫВАЙ ІМЯ ПАНА БОГА ТВАЙГО ДАРЭМНА
* НЕ ЧУЖАЛОЖ
* ПАМЯТАЙ ДЗЕНЬ СВЯТЫ СВЯТКАВАЦЬ
* НЕ ЗАБІВАЙ
* ШАНУЙ БАЦЬКУ СВАЙГО І МАЦІ СВАЮ
* НЕ ПАЖАДАЙ ЖОНКІ БЛІЖНЯГА ТВАЙГО
* НЕ ПАЖАДАЙ НІЧОГА, ШТО НАЛЕЖЫЦЬ БЛІЖНЯМУ ТВАЙМУ
* НЕ СВЕДЧЫ ФАЛЬШЫВА СУПРАЦЬ БЛІЖНЯГА ТВАЙГО

7 2 8 6 9 4 1 3 5 10

### Якая гэта запаведзь?

Перад табою змешчаны малюнкі. Кожны з іх – адна запаведзь. Твая задача пад кожным малюнкам напісаць, якая менавіта гэта запаведзь.









### Ці добра ты ведаеш Божыя запаведзі?

Праз якога прарока Бог даў 10 Божых запаведзяў людзям на гары Сінай даведаешся, калі кожную літару прывядзеш да сваёй клетачкі.




### Пра што нам нагадвае Езус?

Твая задача ісці па стрэлках, пачынаючы з чырвонай літары, і выпісваць кожную 2-ую літару. Калі выканаеш заданне, даведаешся працяг слоў, з якімі Езус звяртаецца да кожнага з нас: «Калі Мяне любіце, ....» Адказ запішы.




### Знайдзі патрэбую лічбу

Колькі з 10-ці Божых запаведзяў адносяцца да Бога і вучаць нас шанаваць і пакланяцца Яму даведаешся, калі знойдзеш у таблічцы лічбу, якая паўтараецца ў кожным радку.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 12 | 5 | 28 | 3 | 32 | 11 | 23 | 15 | 2 | 1 |
| 16 | 6 | 29 | 81 | 33 | 3 | 29 | 4 | 9 | 2 |
| 12 | 3 | 10 | 75 | 45 | 8 | 55 | 15 | 12 | 56 |
| 64 | 65 | 3 | 62 | 18 | 1 | 3 | 69 | 70 | 66 |
| 3 | 24 | 23 | 15 | 9 | 2 | 55 | 70 | 9 | 24 |
| 16 | 29 | 6 | 33 | 3 | 4 | 24 | 32 | 90 | 95 |
| 91 | 1 | 4 | 97 | 96 | 91 | 11 | 28 | 15 | 3 |
| 12 | 5 | 6 | 81 | 70 | 3 | 69 | 33 | 15 | 1 |

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Як тэрмінова ўзяць шлюб?

*"Скажыце, калі ласка, ці могуць маладыя асобы тэрмінова ўзяць шлюб у касцёле, без устаноўленага двухтрохмесячнага чакання, як таго патрабуюць рэлігійныя каноны? Яна – каталічка з сям'і вернікаў, была ў сёлетняй велікоднай споведзі, некалькі гадоў назад бежмаваная, ён – хрышчоны праваслаўны.*

*Яны ўступілі ў афіцыйны шлюб (зарэгістраваліся ў ЗАГСе) і чакаюць нараджэння дзіцяці. Калі ёсць магчымасць, адкажыце, калі ласка, тэрмінова, бо ёсць планы атрымаць шлюб, каб дзіцятка было пад Божай апекай".*

*Эліза*

**На пытанне адказвае а. Андрэй Сідаровіч MIC:**

– Касцёл нездарма робіць націск на добрую, сумленную падрыхтоўку да шлюбу. Таямніца кахання двух людзей, якія засноўваюць сям'ю, настолькі непаўторная, што патрабуе свядомага ўдзелу абодвух бакоў. Таму неабходна, каб перад сакрамантам шлюбу адбылася адмысловая падрыхтоўка, якая патрабуе некалькі месяцаў часу.

Адна з першых падказак для закаханых – гэта заахвочванне быць вернымі запаведзі "не чужалож". Менавіта парушэнне святасці інтымнасці будучага сямейнага жыцця і прыводзіць да сітуацый, калі трэба парушыць лагічны парадак развіцця адносін паміж закаханымі. Хуткі шлюб не дазваляе прайсці шлях ад захаплення да рэальнага пазнання і моцных, і слабых рысаў характару чалавека, якога люблю. Адсутнасць досведу першых сварак і канфліктаў, а таксама прымірэння і прабачэння перад шлюбам прыводзяць да расчаравання ў сямейным жыцці, калі мы сцвярджаем, што даводзіцца жыць з чалавекам, якога мы абсалютна не ведаем.

Чаканае дзіця – гэта, безумоўна, блаславенне Божае. Але ў апісаным выпадку ў прынцыпе гэта становіцца прычынай, штуршком да сакраманту шлюбу, а не свядомым, абдуманым выбарам дарослых. З аднаго боку, пахвальна, што ёсць такое жаданне нармалізаваць адносіны і праз рэгістрацыю ў ЗАГСе, і праз сакраментальнае благаслаўленне, а з другога – застаецца пытанне гатоўнасці да такога адказнага кроку.

У сваім святарскім служэнні я стараўся не ісці на кампрамісы ў такіх выпадках і заахвочваў зрабіць усё паводле правілаў. Калі дзіця ўжо зачатае, варта рэгістравацца ў ЗАГСе, нараджаць, праходзіць падрыхтоўку і браць шлюб. У гэтым выпадку я б выключэння не рабіў, бо абраннік – праваслаўнай веры, а гэта азначае, што ён патрабуе атрымання канкрэтных ведаў пра абавязкі, якія накладвае на яго каталіцкі шлюб.

Хачу зазначыць, што выпадак кожнай пары непаўторны, і мясцовы пастыр (пробашч) прымае адпаведнае рашэнне, зыходзячы з канкрэтнай сітуацыі.



Здымак ілюстрацыйны

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**22 студзеня 2017 г.**

***Мц 4, 12-23***

Бог уцелавіўся для нашага збаўлення. Аднак неабходны таксама і наш удзел у гэтай справе. Езус заклікае да навяртання, бо набліжаецца Нябеснае Валадарства. Божая блізкасць і Божае прабыванне ў нашых сэрцах – гэта вялікі і блізкі дар. Трэба толькі падрыхтаваць сваё сэрца на такі дар праз навяртанне, праз гатоўнасць адкінуць свой стары і звыклы лад жыцця і думак. Патрэбна рашучасць пакліканага Богам, каб ісці за Ім. Бо менавіта Ён дае нам пакліканне і ласку, каб гэтае пакліканне выканаць. А нам трэба навяртацца, адкідаць думанне старога чалавека ў сабе і рашуча наследаваць Езуса.

*– Ці ўсведамляю, што я Божае Дзіця і ўдзельнік Божага Валадарства?*

*– Ці ведаю, што Божае Валадарства – гэта прабыванне Бога ў маім сэрцы?*

*– Ці Ён з'яўляецца Валадаром майго сэрца?*

*– Якія думкі і ўзоры паводзін у мяне ад старога чалавека?*

*– Наколькі мае думкі прасякнутыя прапагандай гэтага свету?*

*– У якіх справах мне патрэбнае навяртанне, гэта значыць, зварот да Бога?*

*– Што Бог думае пра гэтыя справы?*

*– Чаму Ён так думае?*

*– Як жыць паводле Яго волі?*

*– Ці маю рашучасць ісці за Езусам?*

*– Якія справы мне трэба пакінуць зараз, а якія пазней, каб Ён стаў сапраўдным Валадаром майго сэрца?*

**29 студзеня 2017 г.**

***Мц 5, 1-12а***

Божае Валадарства распачынаецца тут і зараз і мае свае прынцыпы. Езус вучыць сабраны народ, якія справы робяць іх больш адкрытымі на прыняцце Бога як Валадара іх сэрцаў. Нават цяжкія справы і праблемы, калі адкрыць іх на дзеянне Божай ласкі, распачынаюць у нас Божае Валадарства. Несправядлівасць, боль і бяда былі і будуць, пакуль мы ёсць на гэтай зямлі. Аднак разумнае перажыванне іх можа стаць прастор для развіцця любові. Таму шчаслівыя тыя, хто ўжо распачаў змаганне з бядой, будуючы любоў – галоўны закон Божага Валадарства. Словы Езуса датычаць таксама і тых нашых сучаснікаў, так званых добрых людзей, якія ў касцёл не ходзяць, але робяць дабро. І добра было б, каб яны не затрымаліся на тым, што робяць, але пайшлі далей – за Езусам. Ён абароніць ад зла і дапаможа выстаяць у прынятым добрым, а таксама ачысціць чалавечую любоў і зробіць яе больш дасканалай.

*– Ці радуюся таму, што маю ў сэрцы Бога?*

*– Ці цаню тое, што Ён – мой Пан, а мая душа – гэта Яго Валадарства?*

*– Ці разумею, што гэта пачатак неба?*

*– На што спадзяюся: на Бога ці на сваё багацце?*

*– Ці давяраю Богу і ці лічу Яго найбольшым сваім багаццем?*

*– Ці ўсведамляю сваю недасканаласць?*

*– Ці бачу зло, якое пануе ў свеце?*

*– Ці хачу гэта змяніць?*

*– Ці падпарадкоўваюся я Богу?*

*– Ці бачу несправядлівасць вакол і ці хачу быць справядлівым?*

*– Ці спачуваю іншым?*

*– Ці прабачаю?*

*– Ці чыстыя інтэнцыі майго сэрца?*

*– Ці будую дабро?*

*– Якое?*

*– Ці яднаюся з Хрыстом у сваіх цярпеннях?*

**5 лютага 2017 г.**

***Мц 5, 13-16***

Асноўны абавязак вучня Хрыста – сведчанне ўсім сваім жыццём пра Божае Валадарства ў сваіх сэрцах. Дабро, якое мы павінны рабіць, мае свой пачатак – Бога. Ён нас стварыў, паклікаў і даў святло Евангелля. Хрысціянін павінен быць плодным. І гэтым плодам павінна быць любоў. Такім чынам засведчым, што паміж намі ёсць Бог – даўца любові. Мы не можам сабе дазволіць няплённае хрысціянства. Святло Божай прысутнасці, якое Езус распаліў у нас, мы павінны перадаць усяму свету. Тым больш, што свет жыве ў цемры, без Бога. Цемра забівае ў людзях радасць, сэнс, надзею, веру, любоў, шчасце. Не клапоцячыся пра якасць свайго хрысціянства і пра яго плённасць, мы не зможам паказаць любові Хрыста тым, хто Яго яшчэ не ведае.

*– Ці надаю я сваім жыццём новы Божы смак асяроддзю, у якім жыву?*

*– А можа, мае ўчынкі, словы і рашэнні маюць смак гэтага свету?*

*– Ці сведчыць маё жыццё пра тое, што я знайшоў святло – сэнс жыцця, і гэта святло – Езус?*

*– Якое дабро я раблю?*

*– Як люблю, калі я – суджэнец, бацька, маці, працаўнік, кіраўнік?*

*– Ці будую разам з Божымі людзьмі Божае Валадарства, якое жыве па законах любові?*

*– А можа, разбураю еднасць, забіваю надзею, не веру ў любоў?*

*– Ці памятаю, што ўсякае дабро, мной зробленае, мае пачатак у Богу?*

*– Ці супрацоўнічаю з Богам, каб рабіць дабро?*

*– Ці шукаю Яго волі, як і дзе любіць?*

*– Ці слухаю Божыя натхненні, каб ісці да новых спраў, у якіх павінен праявіць сваю любоў?*

**12 лютага 2017 г.**

***Мц 5, 20-22а; 27-28; 33-34а; 37***

Вучань Езуса Хрыста павінен выконваць Божы закон у духу паслухмянасці Айцу. Божыя запаведзі дадзены нам, каб мы не забівалі любові праз грэх. Але яшчэ і для таго, каб мы ведалі, як абараняць і развіваць любоў паводле Божай волі. Галоўная запаведзь нашай веры кажа, каб мы любілі Бога ўсім сэрцам, душой, розумам, а бліжняга свайго як самога сябе. Прыклад такой любові і паслухмянасці даў нам Езус. І Ён хоча, каб хрысціяне, з'яднаныя з Ім, жылі так, як Ён. Гэта, безумоўна, высокі ўзровень, але мы адораны шматлікімі ласкамі, і Пан пабач. Ён разам з намі перамяняе наша сэрца.

*– Ці разумею, як працуюць у чалавеку пачуцці?*

*– Ці дазваляю ім перамяняцца ў грэх?*

*– Ці жыву ў гневе?*

*– Ці не пагарджаю іншымі людзьмі?*

*– Ці стараюся жыць у згодзе з братамі?*

*– Ці з'яўляюцца чыстымі мае думкі?*

*– Ці не іду ў думках за пажадлівасцю, забіваючы тым самым пашану да сябе і любоў?*

*– Ці змагаюся з прычынамі, якія прыводзяць мяне да грахоў?*

*– Ці рашуча адкідваю спакусы і іду за добрым?*

*– Ці не падштурхоўваю іншых да граху?*

*– Ці жыву ў праўдзе?*

*– А можа, я ілгун і крывадушнік?*

*Разважанні падрыхтаваў* **кс. Павел Кнурэк**

*www. lyntupy.by*

# Зімовыя ўрачыстасці ў Росіцы пройдуць 18 лютага

**Урачыстасці ўшанавання блаславлёных мучанікаў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча ў Росіцы ў гэтым годзе адбудуцца 18 лютага.**

Урачыстасці пачнуцца ў 11 гадзін.

Вёска Росіца Верхнядзвінскага раёна знаходзіцца ў памежнай зоне. Для бяспечнага прыезду і пілігрымавання ад 1 студзеня 2017 года абавязкова неабходна мець пры сабе пашпарт (плаціць дзяржаўную пошліну не трэба).

Як заўсёды, на заканчэнне ўсіх пілігрымаў айцымарыяне запрашаюць на гарачы пачастунак.





**Дарагія сябры!**

**З'явілася новая магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасласць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

1. **Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:** ***363*375295105172*2#**
2. **Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
3. **Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:** ***363*[код пацвярджэння]#**
4. **Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

*Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"*

# Дзесяць парад ад Падрэ Піа для тых, хто перажывае цяжкасці ў жыцці

**Айцец Піа з П'етрэльчыны меў ад Бога асаблівыя дары: аздараўленне хворых, дар чытання сэрцаў, водар святасці, білакацыя, левітацыя, стыгматы, якія ён насіў цэлых пяцьдзясят гадоў.**



Святы капуцын за ўсё жыццё напісаў тысячы лістоў да людзей, для якіх быў духоўным кіраўніком. Гэтыя лісты застаюцца крыніцай практычнай хрысціянскай мудрасці і цалкам актуальныя і ў нашыя дні.

Парады айца Піа для тых, хто перажывае цяжкасці ў жыцці:

1. Калі ты можаш размаўляць з Госпадам у малітве, гавары з Ім і ўслаўляй Яго. Калі ад стомы ты не можаш казаць, будзь у гатоўнасці служыць Яму. Застанься ў спакоі і зрабі нейкі жэст, які сведчыць пра тваю павагу. Госпад убачыць цябе, а твая прысутнасць будзе Яму мілай. Ён дабраславіць цішыню, якую ты Яму ахвяруеш, ты знойдзеш суцяшэнне, калі ён возьме цябе за руку.
2. Чым больш мы адчуваем горкіх хвілін, тым больш атрымліваем любові.
3. Бог жадае сваю ўсемагутнасць праявіць у тваёй бездапаможнасці.
4. Вера – гэта паходня, што асвятляе шлях тым, хто ў адчаі.
5. Сярод турботы і ў моманты, калі шчасце ад нас адварочваецца, нас падтрымлівае надзея на бязмежную Божую міласэрнасць.
6. Усю сваю веру давер выключна Богу.
7. Малітва – наша магутная зброя. Яна – ключ, які адкрывае сэрцы Богу.
8. У цяжкія хвіліны будзь якзімародак, што будуе гняздо на карабельнай мачце. Узнясіся над зямлёю, сваім розумам і сэрцам узнясіся да Бога, Які можа даць табе задавальненне і моц выстаяць перад выпрабаваннямі.
9. Будзь упэўнены: чым больш інтэнсіўна нападае сатана, тым бліжэй да душы тваёй ёсць Бог.
10. Памятай: ты не выйграеш бітвы, калі не будзеш маліцца. Выбар заўсёды за табой.

*Aleteia.org*




**Каталіцкі ВЕСНІК**
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 377

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3400 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 18.01.2017 г. у 11.23

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь